21 жніўня 2020 | № 31 (690)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 20031

Пасля Вялікага тэрору
Стар. 10

**МАЦІ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ДЗЕ ІХ ДЗЕЦІ І ШТО З ІМІ ЗДАРЫЛАСЯ. ГЭТА АДБЫВАЕЦЦА Ў НАС, У БЕЛАРУСІ!**

Святлана КРАСУЛІНА

# Ніхто не павінен адчуваць такіх пакут!

**Гэта расповед маці — адной з тысяч, — якія спачатку шукалі, а пасля чакалі вызвалення сваіх дзяцей.**




Фота www.ruptly.tv

### Ноч

Увечары 13 жніўня ва ўсіх тэлеграм-каналах пачынаюць цыркуляваць упартыя чуткі пра тое, што затрыманых выпускаюць. Да 11 ночы едзем з мужам на Акрэсціна — чакаць сына.

Гэта горшая ноч у маім жыцці. Інфармацыю дазавана перадаюць нейкія неўсталяваныя міліцэйскія асобы праз валанцёраў. Валанцёры наводзяць парадак сярод натоўпу ўсхваляваных людзей, моляць не шумець і не пляскаць, бо гэта злуе турэмшчыкаў і яны адыгрываюцца на арыштантах. Прыязджаюць журналісты. Быццам бы павінны выпускаць. Выстройваемся калідорам уздоўж турэмнай сцяны, цягнем шыі, каб першымі ўбачыць сваіх родных, калі іх выпусцяць.

Да Акрэсціна прыязджае намеснік міністра Барсукоў. Абяцае, што да 6 раніцы выпусцяць усіх затрыманых. Надзея ўбачыць сына становіцца рэальнасцю!

Усю ноч то з брамкі, то з варот выпускаюць групкі затрыманых. Невядома, хто зараз выйдзе. Натоўп велізарны, баюся прапусціць сына. Калі не магу разглядзець праз натоўп, крычу яго імя, спадзеючыся, што пазнае голас.

Хлопцы выходзяць на сваіх нагах, многія кульгаюць, кідаюцца ад натоўпу, закрываюць твары капюшонамі. Валанцёры спыняюць іх, запісваюць, адводзяць да медыкаў. Медыкі выклікаюць хуткія, аднаго хлопца вязе рэанімацыя. Гадаю, у якім стане будзе мой хлопчык.

Выходзіць новая група. Некаторыя выходзяць з брамкі — і тут жа нагінаюцца і адводзяць рукі за спіну. За два-тры дні іх надрэсіравалі так сябе паводзіць.

Усю ноч назіраю чараду скалечаных, збітых, дэмаралізаваных людзей. Хтосьці не можа ўспомніць свайго імя. У кагосьці няма вока. З разбітай галавой, са збітым тварам, ледзь клыпаюць, крывяцца ад болю. Хлопец, з аблітымі нейкай белай дрэнню валасамі, трымаецца мужна, дае інтэрв'ю журналістам. Зусім маладзенькі хлапчук з сінімі рукамі і заплыўшым вокам, яму выклікаюць хуткую валанцёры. Кожны раз кідаюся да групы выпушчаных, шукаю свайго сына і гадаю, якія калецтвы ў яго будуць, у думках малюся невядома каму, каб калецтва былі не вельмі страшнымі. Разумею, што будзе збіты, магчыма, пакалечаны, толькі не ведаю, наколькі моцна.

Пакутлівыя паўзы паміж выхадам хлопцаў з брамкі, з варот. Кідаюся то туды, то сюды. Сына няма!

Да сямі гадзін раніцы валанцёры перадаюць звесткі ад невядомых супрацоўнікаў турмы, што больш сёння нікога не будуць выпускаць. Пасля бяссоннай ночы ў поўным ступары з'язджаю дадому пісаць, тэлефанаваць, высвятляць — добра, ёсць інтэрнэт.

### Дзень

Спрабую высветліць, дзе мой сын. З'яўляецца інфармацыя, што многіх з Акрэсціна адправілі ў Жодзіна, у Слуцк. Адганяючы самыя страшныя думкі, спрабую датэлефанавацца ў РУУС Савецкага раёна, у суды, праваабаронцам, пішу па ўсіх адрасах, якія ёсць на праваабарончых сайтах, дзе могуць дапамагчы з інфармацыяй. У фэйсбуку вывешваем фатаграфію сына з просьбай дапамагчы ўстанавіць месцазнаходжанне.

Тэлефаную знаёмаму супрацоўніку міліцыі. Праз паўгадзіны ён мне паведамляе, што 13.08 быў суд, сыну далі 11 сутак, пакуль ён на Акрэсціна, але 99% што яго павязуць у Жодзіна. Смяротны страх за сына крыху адпускае, нешта канкрэтна становіцца вядома, ды і пра Жодзіна ёсць станоўчыя водгукі, цягне на 10 балаў сярод турмаў. Там не б'юць і нават кормяць.

Зноў пачынаю непакоіцца: а ці дакладныя гэтыя звесткі? І як быць з абяцаннем Барсукова выпусціць усіх? Абзвоньваю суды. У Савецкім няма звестак пра майго хлопчыка, раяць тэлефанаваць у Вярхоўны, усе звесткі там. Дазваньваюся да Вярхоўнага. Нахабная цётка адказвае: «Глядзіце на сайце». Я ёй тлумачу, што на сайце суды за 11-га, а мой асуджаны, па чутках, 13-га. У адказ: чакайце, не паспяваем напісаць спісы. Тут ужо я выбухаю (дарма, трэба заўсёды быць з імі стрыманым): вы столькі паспелі асудзіць, што за паўдня не здолелі ўсе імёны ўбіць у эксэлеўскі файл? Колькі ж кожны суд доўжыўся? У адказ пакрыўджанае сапенне, завяршаю званок.

У Фрунзенскім судзе нарэшце даюць першыя афіцыйныя звесткі: асуджаны на 11 сутак, як мяркуецца, на Акрэсціна, удакладняйце. Дзе??? У РУУС. Дазваніцца немагчыма. Высвятляецца, што адкрываецца «Гарачая лінія», дзе будуць аператыўныя звесткі пра месцазнаходжанне арыштантаў. Праз 15 хвілін упартых спробаў датэлефаноўваюся. Мегаветлівая дзяўчына (успамінаюцца «ветлівыя людзі») адказвае, што мой сын не лічыцца ні ў адным са спісаў. Так, быў на Акрэсціна, але яго цяпер ужо, мяркуючы па ўсім, адпусцілі.

Ляцім з мужам на Акрэсціна. Пытаемся ва ўсіх валанцёраў, ці выпушчаны наш сын. Адказваюць, што запісваюць усіх, але нашага не выпускалі. На дзверцах каля ЦІПа вісіць спіс. Ура!!!! У ім ёсць наш хлопчык. Ніколі не думала, што так парадуюся, калі ўбачу імя свайго дзіцяці ў турэмным спісе. Чакаю. З брамкі выпускаюць малымі групкамі хлопцаў. Іх стан горшы, чым у тых, што выпускалі ноччу. Валанцёры аказваюць ім усялякую дапамогу. Некаторыя палохаюцца, спрабуюць бегчы ад валанцёраў, хоць тыя спакойныя і папераджальныя. У тых, хто прабыў у засценках некалькі дзён, часта неадэкватная рэакцыя.

З варот выязджаюць тры аўтазакі. Турэмшчыкі перадаюць спісы з тымі, хто ў іх. Наш хлопчык у спісах не значыцца. Валанцёры папярэджваюць, што ў спісах можа быць недакладная інфармацыя з-за блытаніны, якая робіцца ў турме. Дакладна нічога не вядома.

Валанцёры на машынах накіроўваюцца за аўтазакамі. Вядома, што зняволеных з аўтазакаў выпускаюць па два-тры чалавекі ў самых розных частках горада. Валанцёры іх прывозяць назад да Акрэсціна, каб аказаць дапамогу і адзначыць у спісах вызваленых. Збітыя брудныя людзі ў рванай скрываўленай вопратцы без грошай і дакументаў — выдатныя кандыдаты на новы арышт. Таму вельмі важна ўсіх выявіць.

### Фінал?

Пастаянна манітору ўсе спісы: адпушчаных, якія засталіся, у бальніцах. Адзіны спіс, у якім ён ёсць, — на дзвярах турмы. Спіс абнаўляюць. У ім няма нашага дзіцяці! І сярод адпушчаных няма! У мяне цёмна ў вачах — увесь дзень блыталі сляды, яго імя то з'яўлялася, то знікала. Хутчэй за ўсё, яго забілі да смерці, калі яго няма нідзе, я пра яго нічога не магу даведацца. Я рыдаю так, што здаецца, цяпер ужо для мяне ўсё скончыцца. Ад гэтага болю выратаванне адно — разбіць галаву аб суседняе дрэва, толькі няма сіл устаць. Мяне суцяшаюць псіхолагі, поруч чымсьці заспакаяльным. Я стараюся ўзяць сябе ў рукі — атрымліваецца дрэнна, мая бурная фантазія малюе такія страшныя карціны з міксу таго, што я бачыла за ўсю ноч і ўвесь дзень, што слёзы ручаём цякуць. Я люта матаю галавой, каб адагнаць гэтыя страшныя карцінкі. Усё жыццё майго хлопчыка праходзіць у мяне перад вачыма. Я яго нараджала, любіла, вучыла, клапацілася, сябравала з ім, слухала яго музыку, чытала яго артыкулы і ганарылася — а цяпер нелюдзі забілі яго палкамі? Гэта немагчыма, гэта не са мной адбываецца.

У гэты час з варот выязджае яшчэ адзін аўтазак. Я парываюся ехаць за ім. Мяне ўтрымліваюць — куды, толькі ў ДТЗ трапіце ў такім стане. Суцяшаюць мяне, кажуць, за аўтазакам імчацца машыны з валанцёрамі. Спрабую выразна гаварыць з юрыстамі, высвятляю, што я магу зрабіць далей. Збіраю шаблоны нейкіх заяваў, дакументаў. Трэба змагацца далей.

Званок. Гэта мой сын!!! Ён быў у апошнім аўтазаку, валанцёры яго прывезлі назад на Акрэсціна!!! Абодва вока ў яго падбітыя, на твары рваная рана, брудныя валасы вісяць нейкімі жмуткамі (амапавец стрыг у аўтазаку нажом), астатніх калецтваў пад адзеннем не відаць. Але ён жывы, са мной, і вельмі радасна ўсміхаецца.

Людзі! Ніхто ніколі не павінен адчуваць такіх пакут! Нават звяры-фашысты ў людскім абліччы не павінны так мучацца.

Калі хтосьці можа іх абдымаць і дарыць кветкі, мы з сынам не пярэчым. Але самі не ўдзельнічаем.

Дзякуй маім цудоўным сябрам, дарагім калегам, стойкаму мужу, які ўвесь час быў побач са мной. Дзякуй усім знаёмым і незнаёмым, хто падтрымліваў словамі, парадамі, спачуваннем. І асобны нізкі паклон валанцёрам. Колькі змагу, буду ім дапамагаць, чым змагу.

# Затрымалі? Збілі? Што рабіць?

Сяргей ПУЛЬША

**Пад пагрозай агульнанацыянальнай забастоўкі сілавікі, нібыта, спынілі гвалт з затрыманых. Але гэта не азначае, што затрыманні скончыліся. Яны працягваюцца, толькі робяцца цяпер цішком, каб ніхто не бачыў.**

Прыклад гэтаму — паведамленне канала «Белсат» пасля неверагоднага Маршу Свабоды. У ім гаварылася, што супрацоўнікі МУС «адлоўліваюць» дэманстрантаў па дварах. На пралукашэнкаўскім мітынгу людзі ў цывільным затрымалі маладзёна, які наважыўся выгукваць: «Сыходзь!» Што з ім стала потым, ці адпусцілі яго? Мы, на жаль, не ведаем.

Таму мы сабралі некаторыя парады, якія дапамогуць вам, калі раптам вас затрымліваюць.

## Кнопка SOS і «хуткі набор»

Даўнія апазіцыянеры ўжо гэта зрабілі: усталявалі на свае прылады так званую «кнопку SOS». Пры націсканні на яе па вызначаным спісе кантактаў адпраўляецца паведамленне кшталту «Мяне затрымалі». Менавіта такім чынам журналісты даведаліся пра арышт рэдактара «Нашай Нівы» Ягора Марціновіча.

Кнопка хуткага набору таксама спрацоўвае. Вы націскаеце на яе — ідзе выклік на тэлефон блізкага вам чалавека. Пры гэтым не дэманструйце апарат міліцыі: ваш суразмоўца пачуе тое, што адбываецца навокал вас. Калі вы гучна кажаце: «За што мяне затрымліваеце? Хто вы такі? Прадстаўцеся! Якія падставы для затрымання?» — вас зразумеюць на тым баку слухаўкі.

У першыя хвіліны затрымання паспрабуйце паведаміць тым, хто ў гэты момант знаходзіцца побач (назіральнікі, мінакі), сваё прозвішча і нумар тэлефона родных. Каб выйграць час, можаце ўчапіцца за што-небудзь нерухомае: слуп, святлафор, дрэва, поручні. Гэта дасць вам час і ўвагу грамадства: пакуль вас будуць адрываць, вы зможаце некалькі разоў паўтарыць просьбу звязацца з роднымі.

Але не спрабуйце пры гэтым чапляцца за міліцыянта! Нават адарваны шаўрон будзе лічыцца супраціўам супрацоўніку міліцыі. Нават калі затрыманне праводзяць людзі ў цывільным, не аказвайце фізічны супраціў: потым знойдуцца сведкі, якія будуць сцвярджаць, што гэтыя людзі прадстаўляліся, а вы наўмысна здзейснілі гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да работніка міліцыі пры ажыццяўленні ім службовых абавязкаў. А гэта — артыкул Крымінальнага кодэкса.

Згодна з працэсуальна-выканаўчым Кодэксам аб адміністрацыйных парушэннях, супрацоўнікі міліцыі па просьбе затрыманага павінны паведаміць пра гэта родным, а калі гаворка пра непаўналетняга, то абавязаныя. На практыцы ж, зазвычай, ніхто нічога нікому не паведамляе.

## Затрыманне і пратакол

Пасля затрымання вас, як правіла, даставяць у бліжэйшы РУУС. Згодна з законам, вас могуць утрымліваць у РУУСе не больш за тры гадзіны, але гэтае правіла, як і правіла паведамлення родным, часцяком не выконваецца. Да таго ж, да асобаў, у дачыненні да якіх распачаты адміністрацыйны працэс па артыкулах, што прадугледжваюць адміністрацыйны арышт (напрыклад, арт. 23.34 КаАП, парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў) законны тэрмін утрымання — да 72 гадзін.

Варта памятаць: тэрмін затрымання адлічваецца з моманту затрымання, а не з моманту дастаўлення ў РУУС. Так што, як толькі акажацеся ў РУУС, настойвайце на неадкладнай фіксацыі затрымання ў спецыяльным журнале з указаннем часу фактычнага затрымання. Тады, калі суд прызначыць вам адміністрацыйны арышт, час ад моманту затрымання да суда пойдзе ў залік арышту.

Напрыканцы пратаколу ёсць месца, дзе вы можаце пакінуць свае заўвагі адносна таго, што напісана ў пратаколе. Пішыце канкрэтна і сцісла, месца там няшмат: пакажыце, чаму не згодныя з пратаколам, пры якіх абставінах былі затрыманыя, звярніце ўвагу на месца і час затрымання, пакажыце магчымых сведак, якія могуць пацвердзіць вашы словы.

Там жа вы можаце напісаць: «З пратаколам не згодны і падпісваць яго адмаўляюся». Факт адмовы ад подпісу пратаколу не цягне нейкіх наступстваў.

## Самы справядлівы суд у свеце

Пры адміністрацыйным парушэнні дапамогай адваката можна будзе скарыстацца толькі ў судзе. Выключэнне — калі вы папярэдне заключылі дамову пра абарону з адвакатам. Калі ў вас такое ёсць — міліцыянты павінны паведаміць пра «эксцэс» вашаму абаронцу адразу пасля затрымання. А калі дамовы з адвакатам няма, у самым пачатку працэсу, пасля таго, як суддзя азнаёміць вас з вашымі правамі, варта заявіць хадайніцтва, каб вашы інтарэсы прадстаўляў адвакат. Патрабуйце адразу, каб гэтае хадайніцтва было адлюстравана ў пратаколе судовага пасяджэння. Права на абарону гарантавана артыкулам 62 Канстытуцыі Беларусі, на яго можна смела спасылацца.

Як правіла, у такіх варунках суддзя абвяшчае перапынак у разглядзе справы, і вы выходзіце на волю. Але ненадоўга — да пошуку адваката.

## Ужыванне фізічнай сілы

У артыкулах 26–28 Закона «Аб органах унутраных спраў» распісана, калі супрацоўнік міліцыі можа ўжываць фізічную сілу і спецсродкі. Аказваецца, чалавека спачатку павінны папярэдзіць, што да яго будзе ўжытая фізічная сіла, а калі ён не адумаецца — то толькі тады трэба яе ўжываць.

«Прымяненню фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў, зброі, баявой і спецыяльнай тэхнікі павінна папярэднічаць выразна выяўленае і відавочнае для асобы, супраць якой яны ўжываюцца, папярэджанне аб намеры іх прымяніць, за выключэннем выпадкаў, калі прамаруджванне ў іх ужыванні створыць непасрэдную небяспеку для жыцця грамадзян або можа пацягнуць іншыя цяжкія наступствы», — гаворыць артыкул 26 Закона «Аб органах унутраных спраў».

Акрамя таго, фізічную сілу ўжываюць толькі тады, «калі негвалтоўнымі спосабамі гэта зрабіць немагчыма».

Пры гэтым, як адзначыў у інтэрв'ю TUT.BY знакаміты адвакат Павел Сапелка, словы супрацоўнікаў міліцыі, што акцыя незаконная і ўсім трэба разысціся, нельга расцэньваць як папярэджанне аб прымяненні фізічнай сілы.

У МУС жа TUT.BY распавядалі, што «супрацоўнік органаў унутраных спраў прымяняе фізічную сілу, а не гвалт, у тым ліку баявыя прыёмы барацьбы, падручныя сродкі для спынення злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў, затрымання асоб, якія іх здзейснілі, самаабароны, перададолення процідзеяння яго законным патрабаванням, калі негвалтоўнымі спосабамі гэта зрабіць немагчыма».

## Катаванні і гвалт

Усе мы ведаем, якімі выходзілі з Акрэсціна нашы грамадзяне. Яшчэ да звароту ў СК паспрабуйце сабраць доказы, што пацвярджаюць факт збіцця. Для гэтага трэба прайсці медагляд. Але! Накіраванне на экспертызу цяпер можна атрымаць толькі па накіраванні таго ж СК альбо праваахоўнікаў. Я думаю, мала хто пойдзе ў міліцыю, каб прасіць міліцыянтаў сведчыць супраць саміх сябе.

Таму адзіным выхадам застаецца зварот па меддапамогу ў медустанову. Пры звароце лекар можа адлюстраваць стан пацыента і наяўнасць у яго гематомаў, пераломаў, ЧМТ, іншых пашкоджанняў і парушэнне псіхікі. Дэталёва раскажыце пра ўсё медыкам!

У медустанове складзіце заяву (лепш у пісьмовай форме) на імя кіраўніка ўстановы з апісаннем абставінаў, пры якіх былі атрыманы траўмы (дата, месца і гэтак далей) у двух экзэмплярах. На вашым экзэмпляры павінна быць адзнака з уваходным нумарам.

Арыгіналы захоўвайце сабе, у інстанцыі накіроўвайце копіі.

Хто ж дапаможа вам са скаргамі — **глядзіце на старонцы 3.**

**Пры падрыхтоўцы выкарыстаны матэрыялы TUT.BY, naviny.by, 103.by.**

# Дзеянні пацярпелага. Парады незалежнага беларускага судмедэксперта і адвакатаў

**Як правільна зафіксаваць факт нанясення цялесных пашкоджанняў, а таксама куды накіраваць адпаведную заяву? Размяшчаем падрабязную інструкцыю дзеянняў пацярпелага.**

## Паслядоўнасць дзеянняў

1. Сфатаграфуйце ўсё цела (чым раней па часе, тым лепш) у памяшканні, у сваёй кватэры, пры добрым асвятленні.

Рабіце фота на фоне любых ідэнтыфікатараў часу і даты (напрыклад, тэлевізар з праграмай, экран тэлефона).

Зафіксуйце на відэа ці запішыце на паперы максімальна падрабязна, што запомнілі за гэтыя дні:

дзе вас затрымалі;

хто быў побач;

што рабіў гэты чалавек ці група людзей;

якія гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да вас былі здзейсненыя;

куды вас адвозілі і гэтак далей.

2. Не выкідвайце і не мыйце вопратку, у якой вы былі!

Добра яе высушыце і складзіце ў папяровы пакет з перфарацыяй (а лепш у скрынку, зрабіўшы адтуліны, каб паветра свабодна цыркулявала) або загарніце ў паперу.

3. Звярніцеся ў медыцынскую ўстанову (пажадана траўматалагічнага профілю) з просьбай зафіксаваць усе цялесныя пашкоджанні. Звярніце ўвагу лекара на крымінальны характар траўмы.

Складзіце заяву (лепш у пісьмовай форме) на імя кіраўніка медустановы з апісаннем абставінаў, пры якіх былі атрыманы траўмы (дата, месца і г.д.) у 2 экзэмплярах. На вашым экзэмпляры павінна быць адзнака з уваходным нумарам, або можаце адправіць заказны ліст з паведамленнем.

Хто выконвае гэтыя дзеянні ў медустанове? Даўрачэбны кабінет, траўматолаг, тэрапеўт, хірург.

4. У выпадку, калі ў медустанове вам адмаўляюць — прасіце кнігу скаргаў і паведаміце, што напішаце скаргу ў Міністэрства аховы здароўя і пракуратуру, з указаннем прозвішчаў.

5. Ва ўстанове фіксацыя траўмаў павінна быць унесеная ў картку, і па вашай просьбе вам павінны зрабіць копію. Зрабіце фота запісаў у карткі.

У платным медцэнтры вам павінны даць раздрукоўку (абавязкова прасачыце за падрабязным апісаннем траўмаў і ўказаннем крымінальнага характару). Арыгінал захавайце сабе, накіруйце копіі ў інстанцыі.

## Апісанне цялесных пашкоджанняў

**Для ўсіх відаў пашкоджанняў:**

дакладная анатамічная лакалізацыя; форма; памеры.

**Для сінякоў:** колер; наяўнасць або адсутнасць прасвятлення ў сярэдняй часткі.

**Для гематомаў:** наяўнасць флюктуацыі, наяўнасць вадкасці (гною, крыві) — абавязкова, плюс усё тое ж, што і пры сіняку.

**Для невялікіх ранаў:** характар і наяўнасць скарыначкі;

вышыня скарыначкі ў адносінах да скуры (вышэй, ніжэй, на ўзроўні);

наяўнасць (з пералікам і ступенню выяўленасці) альбо адсутнасць прыкмет запалення.

**Для ранаў:**

глыбіня;

краі — роўныя альбо няроўныя, асадненныя альбо неасадненныя, наяўнасць альбо адсутнасць прыкмет запалення;

канцы: вострыя або закругленыя;

наяўнасць альбо адсутнасць тканкавых перамычак паміж сценкамі раны;

кірунак параненага канала (калі рана глыбокая).

**Пры страсанні мозгу:**

як мінімум трохразовае апісанне поўнага неўралагічнага статусу з указаннем усіх наяўных сімптомаў у працэсе дынамікі назірання/лячэння;

недапушчальныя фармулёўкі кшталту «неўралагічны статус без зменаў». Трэба дамагацца толькі канкрэтнага апісання!

## Што з гэтым рабіць далей?

Заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы па артыкулах 424–426 трэба напісаць у 3 экзэмплярах і накіраваць па пошце заказным лістом на адрас Следчага камітэта і Генеральнай пракуратуры.

## Важна!

Усе звароты можна дасылаць па электроннай пошце. Але лепш дубляваць заказнымі лістамі з паведамленнем.

Лекары не заўсёды поўна апісваюць цялесныя пашкоджанні. Таму ўсе дадныя неабходна пераправерыць самастойна.

Інфармацыя прадастаўленая незалежным медыцынскім судовым экспертам Іванам Мікалаевічам Алексам: +375 (29) 786-68-37, +375 (44) 586-68-37.

# Беларусы сваіх не кідаюць!

Сяргей ПУЛЬША

**Цяпер выходзяць на волю людзі, што былі затрыманыя на акцыях пратэсту. Шмат хто з іх не ведае, што рабіць і куды звярнуцца. Аднак у краіне з'явілася мноства ініцыятываў, якія аказваюць самую розную дапамогу.**



## Фіксуйце катаванні!

Першае, што можна параіць вызваленым, — звярнуцца да праваабаронцаў, каб зафіксаваць тое, што адбылося. Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Сусветная арганізацыя супраць катаванняў (OMST) распачалі кампанію па дакументаванні выпадкаў катаванняў, жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага абыходжання ў дачыненні да ўдзельнікаў пратэстных выступленняў, якія адбыліся ў Мінску з 9 па 13 жніўня. Распавесці пра гэта можна як асабіста, так і праз гугл-форму, якую вы знойдзеце на сайце праваабаронцаў — spring96.org. Праўда, ён па-ранейшаму блакуецца, таму выкарыстоўвайце VPN.

Таксама вы можаце абскардзіць дзеянні сілавікоў пры вашым затрыманні. Гэта можна зрабіць трыма спосабамі.

**Спосаб 1.** Самастойна звярнуцца ў раённы аддзел Следчага камітэта з заявай аб здзяйсненні ў дачыненні да вас злачынства, кароткім апісаннем сітуацыі і патрабаваннем аб прыцягненні асобаў, якія прычынілі вам шкоду, да адказнасці за здзяйсненне злачынства, прадугледжанага арт. 426 КК РБ (перавышэнне ўлады) або 455 КК РБ (перавышэнне ўлады ваеннаслужачым) — так альтэрнатыўна і пазначыць у заяве.

Апісанне вашага звароту дасылайце на любы з каналаў сувязі ПЦ «Вясна». Яны збіраюць і аналізуюць інфармацыю аб катаваннях і жорсткім абыходжанні, рыхтуюць звароты ў міжнародныя органы і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.

Пасля атрымання пісьмовага адказу Следчага камітэта варта звярнуцца ў «Вясну» для далейшых дзеянняў.

**Спосаб 2.** Напісаць у грамадскую прыёмную праваабаронцаў на любы канал сувязі, дзе пазначыць:

а) Вашы прозвішча, імя, адрас, спосаб сувязі;

б) Што, дзе, калі здарылася, якія наступствы для вас ці нашчадкаў;

в) Згодны/ не згодны на публікацыю, з імем/без імя.

Праз кароткі час з вамі звяжацца юрыст і перашле вам афармленую заяву для Следчага камітэта або пракуратуры. У некаторых выпадках (напрыклад, калі трэба правесці агляд цялесных пашкоджанняў), вам прыйдзецца звярнуцца асабіста ў гэтыя органы.

**Спосаб 3.** Звярнуцца асабіста ў грамадскую прыёмную «Вясны» за складаннем скаргі. Але, калі ласка, майце на ўвазе, што гэтымі днямі было затрымана больш за 7000 чалавек, таму магчымасці па прыёме людзей у праваабаронцаў вельмі абмежаваныя. Праваабаронцы просяць выкарыстоўваць, калі магчыма, два першыя варыянты.

## Кантакты:

Праваабарончы цэнтр «Вясна»: e-mail: viasna@spring96.org. Мэнэджары грамадскай прыёмнай: +375 29 8413981 (WhatsApp, Signal, Тэлеграм @Viasna). Ці кантактуйце з рэгіянальнымі філіямі сваіх гарадоў. Да каго звярнуцца, вам падкажуць у грамадскай прыёмнай, або вы можаце знайсці гэтыя кантакты на сайце spring96.org.

Скаргі з нагоды катаванняў, дакументы ў абарону ахвяр і для прыцягнення да адказнасці вінаватых рыхтуе таксама Беларускі Хельсінкскі камітэт. Звярнуцца да іх можна па е-мэйл: office@belhelcom.org, а таксама па тэлефоне: +375 17 222-48-00 (рабочыя дні, з 10 да 17).

## Аплата штрафаў і фінансавая дапамога

Дапамогу ў аплаце штрафаў, рахункаў, а таксама выдачу аднаразовай матэрыяльнай дапамогі кожнаму пацярпеламу аказвае ініцыятыва BY_Help: www.facebook.com/BYhelpBY, альбо (прасцей) www.belarus97.pro. Для атрымання дапамогі неабходна запоўніць заяўку і абавязкова прыкласці фота пастановы суда і рэквізітаў для аплаты (калі ёсць).

Таксама створаная ініцыятыва для дапамогі пацярпелым беларусам, якія пазбавіліся працы з-за палітычных рэпрэсій.

Адвакаты Мінскай гарадской калегіі адвакатаў гатовыя аказаць бясплатную юрыдычную дапамогу па адміністрацыйных справах усім, хто патрапіў у цяжкую сітуацыю. Па гэтым пытанні варта звяртацца па тэлефонах: +375 29 342-52-95, +375 17 348-53-48, а таксама ў юрыдычныя кансультацыі, адвакацкія бюро і да адвакатаў, якія ажыццяўляюць дзейнасць індывідуальна.

## Медыцынская і псіхалагічная дапамога

Грамадскае аб'яднанне «Звяно» сабрала каманду медработнікаў, гатовых аказваць неабходную медыцынскую дапамогу без фіксавання факту звароту. Для гэтага трэба запоўніць гугл-форму, якую вы знойдзеце на сайце інтэрнэт-часопіса «Імёны»: imenamag.by.

«Імёны» прапануюць дапамогу ў лячэнні і рэабілітацыі тым, хто атрымаў траўмы і раненні рознай ступені цяжкасці падчас мірных дэманстрацый. На сайце ёсць кантакты не толькі дактароў, але і арганізацый, якія аказваюць самую розную дапамогу: псіхалагічную, юрыдычную, фінансавую.

Заходзьце ў раздзел збору сродкаў на меддапамогу для пацярпелых у час мірных дэманстрацый. У гэтым раздзеле — усе спасылкі. І, канешне ж, вы можаце самі ахвяраваць грошы на гэтую справу.

Ініцыятыва #СалідарныЯ працуе з псіхалагічнай супольнасцю і можа арганізаваць бясплатную псіхалагічную дапамогу ў выглядзе кансультацый або групавых сустрэч (у залежнасці ад запыту) для тых, хто быў затрыманы, а таксама для іх блізкіх. Каб атрымаць падтрымку, неабходна запоўніць анкету.

Таксама кантакты спецыялістак і спецыялістаў аб'яднаныя ў агульную базу «Псіхалагічная дапамога пацярпелым ад гвалту ў Беларусі 2020». Для звароту па дапамогу зайдзіце ў чатбот тэлеграм @psiholog2020bot або патэлефануйце на гарачую лінію: +375 25 612-52-40.

Медыцынскі цэнтр «Ладэ» заявіў, што бясплатна дапаможа тым, хто пацярпеў падчас мірных акцый пратэсту 9–14 жніўня. Бязвыплатнае аказанне дапамогі будзе прызначаць лекар, згодна з характарам траўмаў, атрыманых чалавекам.

Стаматалагічная клініка «Триомед» гатовая аказаць бясплатную стаматалагічную дапамогу пацярпелым у мірных акцыях і пратэстах, аж да ўстаноўкі імплантаў і каронак, калі зубы былі выбітыя. Звязацца можна з дырэктарам клінікі Валерыем Андрыенкам праз тэлеграм: @valery1984 ці сайт: triomed.by.

Стаматалогія «ДэнталСалон» гатовая аказаць бясплатную стаматалагічную дапамогу пацярпелым ад супрацьпраўных дзеянняў сілавых структур у перыяд выбарчай кампаніі. Кантактныя тэлефоны: +375 29 603-55-99 і +375 29 843-55-99.

Сківічна-тваравы хірург акажа бясплатную дапамогу пацярпелым на пратэстах: +375 29 639-70-84.

Мноства кантактаў медыцынскай дапамогі ад розных спецыялістаў (траўматолагі, артапеды, отарыналарынголагі, дэрматолагі, рэабілітолагі, гінеколагі, лагапеды, дзіцячыя спецыялісты) сабраныя ў допісе інстаграм: @vikatere_food. Пішыце гэтым спецыялістам у дырэкт — яны дапамогуць у межах сваёй кампетэнтнасці і магчымасцяў.

## Іншая дапамога

Веламеханікі крамы on-bike.by з веламайстэрні veloservice.by адрамантуюць бясплатна ровары, якія былі зламаныя ў дні пратэстаў. Звяртацца па адрасе: г. Мінск, вул. Іосіфа Жыновіча, 20. Час працы з 10.00 да 17.00. Але спачатку наведайце сайты гэтых людзей — яны могуць быць перагружаныя заказамі.

Праз інстаграм @enot_deteiling вы можаце атрымаць дапамогу ў рамонце аўтамабіля, калі ён быў пашкоджаны ў час пратэстаў. Гэтую ініцыятыву падтрымалі іншыя майстры — напрыклад, @miha190e.

Майстэрня no1.by гатовая прыняць мабільныя прылады ў пацярпеўшых ад сілавых структураў. Калі вам пабілі/паламалі тэлефон, вам яго адрамантуюць бясплатна. Але таксама не злоўжывайце — іх бюджэт дазваляе адрамантаваць толькі каля 100 прыладаў.

Аўтадапамога, бясплатнае часовае жыллё, паслугі салонаў прыгажосці, гарачая ежа родным затрыманых і яшчэ шмат іншай дапамогі прапануюць беларусы тым, каму гэта цяпер патрэбна.

## Агульная дапамога

У сеціве з'явілася мноства матэрыялаў на тэму, як шукаць дапамогу, дзе яе шукаць, хто дапамагае і якім чынам. Далёка лазіць не трэба, усё ўжо зроблена за вас.

Апроч згаданага ўжо часопіса «Імёны» рэсурсы падтрымкі можна знайсці на сайце 34mag.net.

Каманда грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» пастаралася стварыць агульную базу кантактаў, па якіх можна атрымаць самую разнастайную дапамогу. На сайце budzma.by маецца спасылка на файл гугл-док, дзе ўказаная інфармацыя па раздзелах — таксама праваабаронцы і юрысты, медыкі, псіхолагі, пошук людзей, і гэтак далей.

## І галоўнае

Сёння мноства людзей дапамагаюць пацярпелым ад дзеянняў улады. Але, што найбольш важна ведаць: калі дапамаглі вам — дапамагайце і вы. Станавіцеся валанцёрамі, у каго ёсць аўто — падвозьце тых, хто выходзіць з турмаў. Медыкі — улівайцеся ў групу медычнай падтрымкі, юрысты — у юрыдычную, калі вы можаце адрамантаваць аўто — рамантуйце (асабліва цяпер карыстаецца попытам паслуга замены клаксонаў). Падвозьце ўдзельнікам акцый ваду і ежу, дый падбадзёрвайце проста добрым словам.

Дапамагайце адзін аднаму. Мы моцныя, калі мы — разам.

***P.S. На падтрымку пацярпелых, аплату штрафаў, медычную рэабілітацыю і падтрымку страйкоўцаў ужо сабрана каля 4 мільёнаў долараў.***

# Створаны адзіны кол-цэнтр для пацярпелых

**Паводле праваабарончых арганізацый, за час пратэстаў па ўсёй краіне былі затрыманыя каля 7000 чалавек. Многія сваякі і сябры да гэтага часу не могуць знайсці зніклых блізкіх.**




Многія знаходзяцца ў разгубленасці: дзе шукаць інфармацыю? Да каго звяртацца па дапамогу? Якія правы ёсць у затрыманых, у сваякоў затрыманых, у тых, каго нядаўна выпусцілі? Як атрымаць грашовую дапамогу з фондаў ахвяраванняў?

Сёння па ўсёй краіне з'яўляюцца дзясяткі і сотні ініцыятыў па дапамозе пацярпелым па розных кірунках. Людзям вельмі складана ў іх зарыентавацца.

З гэтай мэтай быў створаны валанцёрскі праект probono.by — адзіны партал, агрэгатар адкрытых ініцыятыў дапамогі пацярпелым і тым, хто мае патрэбу ў дапамозе.

У рамках праекта пачаў дзейнічаць адзіны шматканальны кругласутачны кол-цэнтр +375 44 709-79-11. Па гэтым тэлефоне валанцёры дапамогуць звязаць пацярпелага з ініцыятывамі, якія гатовыя яму дапамагчы.

Probono.by — гэта інфармацыйны цэнтр адкрытых ініцыятыў дапамогі пацярпелым, ён працуе па некалькіх кірунках:

- пошук людзей
- адвакацкая дапамога
- юрыдычная дапамога
- дапамога праваабаронцаў
- медыцынская дапамога
- псіхалагічная дапамога
- фінансавая дапамога
- іншыя ініцыятывы і віды дапамогі

Калі вы маеце патрэбу ў дапамозе — тэлефануйце + 375 44 709-79-11. Кол-цэнтр працуе 24/7.

# «Я павінен быў вытрымаць, каб

Аксана КОЛБ

**Мы сустракаемся з Дзімам Дзмітрыевым у скверы на Акрэсціна. Сюды ён прыехаў, каб забраць свае рэчы. Гэтак жа, як і сотні іншых вязняў, якіх выпусцілі апошнімі днямі.**



Дзмітрый Дзмітрыеў быў затрыманы 9 жніўня на выбарчым участку

## Білі ўсіх

Вялікая чарга стаіць як да будынку ЦІП, так і да ІЧУ. Усё, што забіралі ў затрыманых, падпісвалі, замацоўвалі скрэпкамі ды складалі ў пакеты. Тысячы тэлефонаў, гаманцоў, пашпартоў, асабістых рэчаў. Пры вызваленні нічога не аддавалі. Таму цяпер людзі спрабуюць забраць хоць нешта. Дзіма запісаўся ў чаргу, і мы прыселі на лаву.

*— Як ты? Моцна білі? — пасля ўсяго таго, што мы даведаліся пра затрыманні, нават няма сумневу, што білі. Пытанне толькі, наколькі моцна.*

— Мяне не. Але шмат каго моцна, вельмі моцна... Мне, можна сказаць, пашанцавала. Мяне затрымалі 9-га вечарам на выбарчым участку на Авангарднай. Мы толькі спрабавалі дамагчыся ад старшыні камісіі пратаколу. Замест гэтага дачакаліся АМАПу, які наляцеў, пачаў біць дручкамі, хапаць і цягнуць у аўтобусы. Набілі людзьмі два аўтобусы (былі і жанчыны, і людзі сталага веку) і прывезлі на Акрэсціна. Ну а там: «Бегом! Морду вниз! Две опорные!» Мы выбягалі, атрымлівалі дручкамі па спіне, ягадзіцах. Нас ставілі да сцяны. Адзін хлопец ляжаў на зямлі. Ляжаў доўга. Пасля заварушыўся. Не ведаю, што з ім было пасля. Нас рассартавалі. Жанчын адправілі ў ЦІП (Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў), мужчын — у ІЧУ (Ізалятар часовага ўтрымання). Там прынялі... Але моцна не білі. Мяне і яшчэ 11 чалавек закінулі ў камеру на 4 месцы. Дзесьці ў 2–3 гадзіны ночы прывялі яшчэ 22 чалавекі. Іх бралі са «стэлы». Пару чалавек з іх — тых, хто сапраўды быў на акцыі, астатнія проста мінакі. Вось яны былі моцна пабітыя: рукі, ногі, спіны — усё было збітае. Самаму малодшаму, Пашу, за тыдзень да гэтага споўнілася 18 гадоў. Самаму старэйшаму было каля 60. Астатнім ад 20 да 45 гадоў.

*— Іх таксама білі?*

— ...Білі ўсіх. Павел быў з такімі вачыма... Зусім пацан, яго ніколі ў жыцці ніхто пальцам не крануў. А тут такое... Мы яго адразу паклалі на шконку. Наогул, стараліся яго трохі апякаць. Усю ноч стаяў грукат, крыкі: «Морду вниз падла!». Крыкі, стогны, удары дручкоў не перапыняліся. Гэта такі своеасаблівы гук. Часам за кожным ударам чуўся стогн, часам былі проста ўдары — чалавек ужо страціў прытомнасць, а яго ўсё яшчэ білі. За ноч прывезлі прыкладна 500 чалавек, можа болей.

Мы перапыняем размову на некалькі хвілін. Дзіма ўбачыў сукамерніка. Пайшоў паразмаўляць. На Акрэсціна ўсё ідуць і ідуць людзі. Дарослыя мужчыны і зусім маладзенькія хлопцы. У большасці — усмешкі. Яны вітаюцца адзін з адным. Прыходзяць з каханымі, жонкамі, роднымі, сябрамі. А можа, проста сваякі не могуць іх адпусціць адных. Каб пасля не шукаць суткамі. Не пакутаваць ад невядомасці. Дасюль няма звестак пра больш за 80 чалавек. Іх спрабуюць адшукаць па фота, просяць тых, хто, магчыма, іх бачыў, расказаць хоць нешта. Паламаныя рукі і ногі, адбітыя ныркі падаюцца драбязой на фоне такой трывожнай невядомасці. Не хочацца верыць у тое, што тыя восем дзясяткаў беларусаў дапоўняць спіс зніклых.

## «Мы чулі падтрымку і разумелі, што ўсё не дарэмна»

— Больш за ўсё білі на 2-м паверсе, — працягвае Дзіма. — Калі на іншых паверхах нехта спрабаваў папрасіць вады, сказаць пра свае правы ці яшчэ што, ім адказвалі: «Ты што, хочаш на другі паверх?» Ніхто не хацеў. Фільмы пра канцлагеры мне там падаваліся амаль казкай... Гук удару дручка аб цела, хруст зламанай косткі... Яны стараліся, каб у адной камеры былі тыя, каго затрымлівалі ў адзін дзень. Каб мы не ведалі, што адбываецца.

*— А вы чулі гукі клаксонаў, чулі, як вас падтрымліваюць?*

— Чулі — і гэта, з аднаго боку, дадавала сілаў, мы разумелі, што ўсё не дарэмна. А з другога — мы вельмі баяліся за тых, хто знаходзіўся па-за сценамі... — на вачах 46-гадовага мужчыны з'яўляюцца слёзы. — Ведаеш, усё можна перажыць, усё вытрымаць для таго, каб пабачыць тых, хто цябе чакае за гэтымі сценамі. Я кожны вечар у думках размаўляў са сваёй жонкай Кацяй. Узгадваў нашага сабаку і катоў. Бацькоў. Я вельмі баяўся, каб з імі што-небудзь не здарылася пад сценамі ІЧУ.

Дзіма не можа стрымаць слязу, калі кажа пра блізкіх ці калі ўзгадвае салідарнасць з затрыманымі і іх сем'ямі.

А хваля падтрымкі сапраўды ўражвае. Беларусы збіраюць грошы рэпрэсаваным і іх сем'ям. Нясуць на Акрэсціна ваду, ежу, рэчы, медыкаменты. Прапануюць бясплатна паслугі адвакатаў ці давезці дадому. Неверагодная салідарнасць зрабіла нас нацыяй, амаль адной сям'ёй. На маёй памяці салідарызавацца наша грамадства пачало якраз падчас масавых рэпрэсій. На Плошчу Каліноўскага людзі прыносілі цёплыя рэчы, гарачую ежу, лекі. У 2010-м стаматолагі прапанавалі бясплатна ўставіць зубы, таксісты давалі асабістыя нумары і вазілі бясплатна, а людзі прывозілі рэчы, прадукты, грошы. Пасля былі Курапаты 2017-га. І кожны ўзровень салідарнасці. З кожным разам народ беларускі станавіўся бліжэй да стварэння грамадзянскай супольнасці. І вось гэтымі днямі мы можам назіраць, як беларусы аб'ядналіся супраць гвалту і хлусні. Я чакала гэтага з траўня 1995 года. Верыла, што прыйдзе той дзень, калі буду ганарыцца, што жыву побач з такімі прыгожымі, чулымі, годнымі людзьмі. Што жыву ў Беларусі. Магчыма, таму і не з'ехала дасюль.

— Хлопцы, дзяўчаты, бярыце катлеты з пюрэ. Гарачыя. Ешце, — сталая жанчына спрабуе накарміць групу маладых людзей, якія стаяць у чарзе па рэчы. Прываблівы водар хатніх катлет заманліва запрашае.

— Дзякуй, мы ж ужо не галодныя, — кажуць хлопцы. А дзяўчына ўсё ж спакушаецца. — Са мной у камеры, — расказвае яна, — была грамадзянка Расіі — Стогава Алеся. Яна адразу сказала, што яна расіянка. Але гэта іх яшчэ больш раз'юшыла. Алесю моцна збілі. А нас асабліва не чапалі. Проста ў камеры нас было 50 чалавек і было вельмі душна. Мы прасілі адчыніць кармушку, каб хоць неяк можна было дыхаць.

Мы ўжо ведаем, што пацярпелі таксама грамадзяне Польшчы. Зламалі нос і грамадзяніну Украіны Паўлу Чарняўскаму. 10 жніўня ён ішоў на працу ў раёне гатэлю Беларусь. Яго спынілі, абшукалі заплечнік, адпусцілі. Ён ужо пайшоў далей, калі падбеглі новыя, запыталіся, адкуль ён. Даведаліся, што з Дняпра, ударылі, скруцілі і закінулі ў аўтазак. Там зноў білі. Як білі і на Акрэсціна.

— *Калі хочаце, распавядзіце свае гісторыі*, — кажу хлопцам і пакідаю свой нумар тэлефона.

# «Мы настолькі патанулі ў хлусні,

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У ноч з 12 на 13 жніўня масава выпускалі затрыманых з ізалятара на Акрэсціна. Валанцёры, якія дзяжурылі ўначы, паведамілі, што затрыманыя выходзілі збітыя і напалоханыя, а ва ўнутраным дворыку чуліся мужчынскія стогны. «Новы Час» правёў дзень з людзьмі, якія дзяжураць у скверы перад ізалятарам часовага ўтрымання.**


Алеся

Затрыманых пачалі выпускаць з ізалятара з дзвюх гадзін ночы да паловы на шостую раніцы. Дзяўчына Алеся, якую саму затрымалі 9 жніўня, а праз суткі выпусцілі, дзяжурыла на Акрэсціна ўначы, бо за кратамі застаўся яе хлопец. «Я паставіла будзільнік на палову на трэцюю ночы сёння. Прачнулася, зайшла ў чат, а там напісалі, што людзей пачалі вызваляць, — распавядае дзяўчына. — Я хутка сабралася і прыехала сюды. Валанцёры і людзі, якія дзяжурылі тут, ужо хаваліся па дварах, бо выйшлі амапаўцы са зброяй і шчытамі. Праз плот даносіліся стогны і крыкі. Калі затрыманых выпусцілі, у мяне склалася такое адчуванне, што яны не разумелі нават, дзе знаходзяцца. Іх выпусцілі без абутку, без шнуркоў, некаторых — без вопраткі. Яны выбеглі ўсе і разляцеліся хто куды, мы намагаліся іх спыніць, але яны баяліся нас, баяліся папіць вады».

Алеся кажа, што перад тым, як адпусціць, людзей моцна збівалі. «Аднаго мужчыну настолькі збілі, што ён дабег да нас і паваліўся ў прыпадках, пачаў сінець. Мы выклікалі хуткую». Толькі сёння Алеся даведалася, што яе хлопца ўжо судзілі. Але дзе ён — яна не ведае.

Муж Антаніны знік увечары 10 жніўня. Ён з братам катаўся на роварах каля «Рыгі», бо недалёка адзін ад аднаго жывуць. «Звычайна каля 22 гадзіны муж вяртаецца дадому, — распавядае Антаніна. — Калі не вярнуўся, стала яму тэлефанаваць. Спачатку званок скідвалі, пасля не падымалі, а потым ён стаў недасяжны. Я патэлефанавала ў «Вясну», усё распавяла. Супрацоўнік сказаў, што гэта падобна на затрыманне, прапанаваў абзваніць РАУСы. Зранку я ўжо патэлефанавала ў 102, напісала заяву з прычыны знікнення мужа. Пасля гэтага мне патэлефанаваў участковы з Савецкага РАУСа і сказаў, што мая заява прынятая, і папрасіў мяне перадаваць усе спісы, якія ў мяне будуць. Зніклых людзей вельмі шмат, ён не спраўляецца: дазваніцца ў ЦІП ён не можа. Міліцыянты самі не атрымліваюць ніякай інфармацыі. Мы вымушаны спадзявацца толькі на дапамогу валанцёраў».

Антаніна мае вялікую колькасць падпісантаў на Фэйсбуку, таму адразу напісала пост пра тое, што адбылося ў яе сям'і, і стала даваць параду тым, у каго зніклі блізкія. Яна раіць усім пісаць заяву ў міліцыю. Участковы сказаў, што праз тэлефон вызначылі месцазнаходжанне мужа: завулак Акрэсціна. Антаніна зрабіла выснову, што муж знаходзіцца тут. «У тэлеграм-каналах ёсць формы, якія трэба запаўняць, — тлумачыць Антаніна. — Калі нават нехта не змог прыехаць сюды, валанцё-


Фота Вікторыі Чаплевай

# убачыць тых, хто мяне чакаў»



Грамадзянін Украіны Павел Чарняўскі проста ішоў на працу

— Ай, што нам расказваць. Мы ж цэлыя, жывыя. Так, трохі збітыя. Але не як іншыя. У нас быў хлопец малады Мікіта Лаўранюк, дык яму моцна дасталася.

### Больш даставалася маладым

Наогул, білі больш маладых. Тых, у каго была якая сімволіка ці доўгія валасы, завушніца. Тых, хто спрабаваў нешта патрабаваць ці не падпарадкоўваўся.

— Я думаю, што яны хацелі зрабіць своеасаблівую «антымайданаўскую» прышчэпку, — кажа Дзмітрый. — Яны думалі, што закашмараць іх, тыя парасказваюць сябрам, і ўсе пабаяцца выходзіць на пратэсты. Прычым білі таксама маладыя. Хоць яны і былі ўсе ў масках, але было бачна, што яны маладыя. А побач стаялі афіцэры і назіралі за ўсім. Яны іх натасквалі, так бы мовіць, вучылі... магчыма, яны былі пад уздзеяннем нейкіх прэпаратаў. Не ведаю. У іх былі такія вочы...

Дзмітрый Дзмітрыеў — былы міліцыянт. Ён 17 гадоў адпрацаваў у Савецкім РАУС. Заставалася тры гады да пенсіі — сышоў. Ён кажа — таму, што больш не мог трываць, што ўжо тады (а звольніўся ён у 2012 годзе) пачынаўся зашквар.

— Хаця, канечне, такога, што я ўбачыў цяпер, не было. Ніколі не было. Гэта гестапа. У ноч на 12-га нам кінулі байкера. Яго з сябрам затрымалі недзе ў Смілавічах. Проста сцягнулі з матацыклаў. Білі і крычалі: «Дзе напалм, дзе выбухоўка?» Сябра звезлі на хуткай. Быў у нас і дзед, якому пераламалі ўсе пальцы. Ён не мог сам ні ўстаць, ні хадзіць, нічога рабіць. Быў хлопец, якога прыцягнулі проста ў майтках... З кожным днём затрыманых білі мацней. Таму мне пашанцавала, што затрымалі 9-га і на выбарчым участку.

Пра тое, што затрыманых 10-га і 11 жніўня білі і катавалі мацней, расказваюць усе. Аляксандр мае вопыт: ён адбыў тры тэрміны. 10-га яго схапілі на Пушкінскай. Ён пайшоў у суседнюю краму па піва. Схапілі якраз, як выходзіў. Ударылі, скруцілі. «Калі прывезлі на Акрэсціна, усіх паставілі на калені. Я сеў на кукішкі. Мяне пачалі біць па спіне, па пятках. Я тры тэрміны адсядзеў, але такога бязмежжа ніколі не бачыў. Гэта нават горш, чым гестапа. Медык, што там быў, у ІЧУ, таксама здзекаваўся. Я прасіў, каб мне аказалі дапамогу. Ён сказаў: «Не здохнеш».

— Мне здаецца, што яны адмыслова правакавалі людзей. Каб нарэшце ўжыць зброю, — працягвае расповед Дзмітрый. — Вечарам аўторка нам сказалі, што павядуць на шпацыр. Мы ўзрадаваліся. Нас вывелі каля 100 чалавек. У суседні дворык таксама. Прайшла гадзіна, пытаемся, калі павядуць назад. Аказалася, што не павядуць. Так мы прастаялі да абеду наступнага дня. За гэты час нам далі дзве бутэлькі вады па паўтара літры. Пісалі, прабачце, за падрабязнасці, мы таксама ў бутэлькі. Ноч была халодная. Сярод нас былі тыя, хто быў вельмі лёгка апрануты. Быў хлопец у адных майтках. Мы стаялі кругам, абняўшыся, у цэнтры самыя слабыя, 18-гадовы Паша. У каго былі байкі, аддавалі тым, каму гэта больш патрэбна. У нейкі момант у некаторых мужыкоў пачалі здаваць нервы. Яны збіраліся выбіць дзверы. Гэтыя зверху назіралі і нават падбухторвалі. Агрэсія літаральна вісела ў паветры. Я казаў хлопцам: «Што вы будзеце рабіць у суседняй камеры? Там жа не воля». Бо канвойныя толькі і чакалі, каб пачаўся бунт. Было вельмі важна трымаць галаву халоднай і не станавіцца такімі, як яны. Мы стараліся.



Іх не зламалі

### «У памочніцы суддзі трэсліся рукі»

Пасля трох сутак затрымання пачаліся суды. Па словах Дзмітрыя, суддзяў было 5–6. Аднолькавыя пратаколы на ўсіх. А вось прысуды розныя.

— Я атрымаў 13 сутак. Быў хлопец, інвалід 3-й групы, ён хадайнічаў пра штраф. Яго адпусцілі. Хлопец, які папрасіў адваката, — 15 сутак. А той, у каго быў свой адвакат, — 25 сутак. Большасць тэрмінаў была па 10–15 сутак. Зрэдку 5–7. Суддзя сядзеў не падымаючы галавы — не думаю, што ад сораму. Проста, каб мы яго не бачылі. А ў дзяўчыны, памочніцы суддзі, трэсліся рукі, яна была ў такім стане ад усяго пабачанага, дзяўчыну было шкада, — расказвае Дзмітрый.

Пасля гэтых так званых судоў шмат хто нарэшце даведаўся, дзе іх родныя і сябры, бо былі апублікаваныя спісы. Але, яшчэ раз нагадаю, дасюль не вядомы лёс некалькіх дзясяткаў чалавек. І гэта страшна.

Асудзілі і пачалі размяркоўваць. Дзмітрыя і яшчэ каля 400 чалавек спачатку збіраліся везці, як ён думаў, у Жодзіна. Але пасля прывезлі ў Слуцк. Перавозілі спецыяльныя канвойныя. Быў, кажа Дзмітрый, і «Алмаз». Але ён не ўпэўнены. Бо немагчыма было нічога разгледзець. Найменшы паварот галавы — удар.

### «Господа, я попрошу не разговаривать»

У параўнанні з папярэднімі днямі, канвой да Слуцка выглядаў як паездка першым класам.

— Нас загрузілі ў той калькасці, якая і прадугледжана. Не запіхвалі як селядцоў, — працягвае Дзмітрый. — Не білі. А калі канвойны сказаў: «Господа, я попрошу не разговаривать», мы наогул аслупянелі. І нават перасталі размаўляць. Ехалі мы доўга, два разы прыпыняліся. Па дарозе чулі, як сігналяць машыны, — гэта нас вельмі падтрымлівала. У выніку прыехалі, як аказалася, у Слуцк. Нам сказалі, што мы прыбылі ў ІЧУ Слуцкага РАУС на тэрыторыі вайсковай часткі. Афармілі дакументы і пачалі медагляд. Трэба было бачыць вочы тых, хто нас прымаў. Яны, канечне, не чакалі такое ўбачыць. Медык усім старалася дапамагчы, чым магла. Мяне размясцілі ў памяшканні, дзе было 90 двухярусных ложкаў. Далі чыстую выпрасаваную пасцельную бялізну. Адчынілі вокны. Мы прынялі гарачы душ з мылам. Нарэшце змаглі памыць шкарпэткі і бялізну ды яшчэ і развесіць яе на вуліцы. Нам прынеслі кніжкі, і можна было выходзіць на двор папаліць. З намі быў хлопец без адзежы, дык яму прынеслі нешта, каб апрануцца.

— *Як думаеш, з чаго такая літасць?*

— Магчыма, ад убачанага... Калі яны ўбачылі нашы збітыя целы. Убачылі, якія мы змардаваныя, знясіленыя. Не ведаю... У гэты ж вечар нас пакармілі. А на наступны дзень пасля паўнавартаснага абеду нам нават прынеслі тэлевізар. І мы нарэшце ўбачылі, што адбываецца ў краіне. Хаця і глядзелі БТ. Таму я вельмі ўдзячны тым людзям, якія сустрэлі нас у ІЧУ Слуцка. Я не ведаю, хто яны і да якога ведамства адносяцца. Але яны былі ЛЮДЗЬМІ.

У пятніцу, 14 жніўня, Дзмітрыя, як і некалькі сотняў вязняў са Слуцка, выпусцілі. За варотамі іх чакалі сотні людзей, якія прапаноўвалі ваду, ежу, адвезці дахаты.

— Калі я гэта ўсё ўбачыў, я заплакаў. Дзякуй вам усім! Дзякуй, ЛЮДЗІ. Усё гэта не дарэмна.

# што забылі, як выглядае праўда»

ры выкладаюць спісы затрыманых і ў чат».

Валанцёрка Алена — самы галоўны чалавек і самая вялікая надзея блізкіх затрыманых. Менавіта яна вядзе так званыя перамовы з ІЧУ. Родныя ўносяць прозвішчы затрыманых у спісы, а Алена падае іх у ІЧУ. Там пазначаюць людзей, якія тут утрымліваюцца. Калі чалавека не пазначылі, значыць, ён або ў ЦІПе, або ў Жодзіна. Спісы аддаюць невялікімі «порцыямі»: толькі на адно-два прозвішчы адгукаюцца блізкія.

— А астатнія? — у надзеі пытаюцца з натоўпу.

— А пра астатніх зараз пайду дамаўляцца.

Праз хвілін дваццаць Алена прыносіць новыя спісы. І зноў маладыя і сталыя людзі абступаюць яе. Алена, зачытаўшы новыя прозвішчы, прапануе пісаць актуальныя пытанні таксама ў спіс, які зноў будзе перадаваць у ІЧУ. А пасля кажа, што перадачы сёння прымаць не будуць. Чуецца плач, бо сярод затрыманых ёсць людзі і з хранічнымі захворваннямі, і з групамі інваліднасці. Адной сталай жанчыне стала кепска, бо ў ІЧУ яе ўнук з эпілепсіяй. Людзі пачалі ўгаворваць не плакаць, бо «яны» не павінны радавацца, бо «яны» толькі гэтага і чакаюць.

У той жа час Раіса, у якой знікла дачка, не прымала такія аргументы: «Мы плачам па сваіх дзецях! Мы вучымся ненавідзець. Я падышла да аднаго амапаўца і спытала: «У цябе ёсць мама? Я таксама мама, і мы плачам гэтыя тры дні!»

Па дарозе каля скверу пачалі выязджаць аўтазакі з затрыманымі, якіх, хутчэй за ўсё, перавозяць у Жодзіна і Слуцк.

Людзі сталі пляскаць і крычаць. Але валанцёры досыць рэзка супакойвалі: затрыманых за такую рэакцыю блізкіх збіваюць. Валанцёрка Таня папрасіла, каб людзі, далучыўшыся ў чаты ў тэлеграм-каналах, уважліва прачыталі правілы і не парушалі іх, стоячы калі ізалятара. Адна жанчына распавядае, што яе сына выпусцілі. Яна ўдзячная лёсу, што ён быў не ў ІЧУ на Акрэсціна. «Тут сапраўднае пекла», — сказала яна.



Ала Іванаўна

Фота Вікторыі Чаплевай

Ала Іванаўна стаіць каля ізалятара ўжо трэці дзень. Яна з тых сталых людзей, хто не мае інтэрнэту, а смартфон у людзей называе «вялікім тэлефонам».

Яе 35-гадовы сын знік у панядзелак увечары. Ён сказаў, што пойдзе ў госці да сябра. Ала Іванаўна прачнулася пасярод ночы і пабачыла, што ён дадому не вярнуўся: «Што мне было рабіць? Я падумала, што ў цэнтры (жанчына жыве ў Заводскім раёне. — аўт.) мне змогуць дапамагчы. Я паехала на Кастрычніцкую плошчу. На выхадзе з метро стаяла моладзь, я запытала, што мне рабіць, калі знік сын. Яны параілі мне звярнуцца ў міліцыю. У РАУСе мне нічога не сказалі, але там стаяла пара, якая выйшла ехаць і шукаць затрыманага на Акрэсціна. Я папрасілася з імі. Так я і даведалася, што ёсць такі ізалятар у Мінску».

Нехта стаіць каля дарогі і выкрыквае: «Хуткая!». Людзі бягуць да машыны хуткай дапамогі, спыняюць яе. Просяць урача даведацца прозвішчы тых людзей, каму стала кепска. На гэта ў іх ёсць паўхвіліны. Людзі ўкідваюць у машыну ваду, печыва, бананы са спадзевам, што ў доктаркі атрымаецца нейкім чынам перадаць гэта затрыманым.

Тамара Міхайлаўна стаіць каля дарогі і чакае, пакуль машына хуткай дапамогі вернецца назад, каб спытаць: ці не яе нявестку яны забралі. У нявесткі — 3-я група інваліднасці, ёй штодня патрэбны лекі, якія не прымаюць. Тамара Міхайлаўна кажа, што дакладна ведае, што яна тут: сын пра гэта паведаміў у РАУСе. Сын дзяжурыў цэлую ноч, дапамагаў валанцёрам. «Я дзяжурыла тут учора, пастаянна пытала ў дактароў хуткай дапамогі, каго яны забіраюць з ізалятара. У асноўным, гэта былі тыя, у каго цукровы дыябет».

Тамара Міхайлаўна тут ужо свая: не плача, але не разумее, як так можна ставіцца да людзей. А пасля сама знайшла гэтаму тлумачэнне: «Мы настолькі патанулі ў хлусні, што забылі, як выглядае праўда».

# Жнівень–2020.

**Гэтыя гісторыя распавялі журналістам Радыё Свабода. Калі вам ёсць што расказаць пра катаванні сілавікамі падчас мірных акцый, звяжыцеся з нашай рэдакцыяй novychas@gmail.com альбо з рэдакцыямі іншых медыя.**


Фота Радыё Свабода

### «Мяне палохае ўласная нянавісць»

Алена Дубовік, журналістка тэлеканалу «Белсат»:

— Мяне палохае нянавісць да кожнага супрацоўніка, да сістэмы, якая нас усіх цяпер забівае і нявечыць. У мяне не засталося ніякіх падзелаў на «злы амапавец» і «лейтэнант з задрыпанага РУУС, які нічога дрэннага не зрабіў». Да кожнага, хто дагэтуль у гэтай сістэме.

Вялікая ўдзячнасць да лекараў, якія ўчора правялі вялізны аб'ём даследаванняў за лічаныя гадзіны, абверглі адзін дыягназ, паставілі іншы. І пры гэтым дзякавалі мне за працу, падтрымлівалі кожны раз па-рознаму: словам, кубачкам гарбаты, усмешкай. І былі на нашым баку, а не на тым. І яны таксама чакаюць зменаў.

Удзячнасць да людзей, якія на працягу трох сутак былі побач і рэальна мяне ратавалі. Дзяўчаты з камеры, вашы тэлефоны ў мяне, усіх знайду. Да той, якая гладзіла па галаве, калі я пачынала плакаць, і шаптала: «Усё будзе добра, давай памолімся». Яна спала са мной трое сутак то ў абдымку, то спіна да спіны. І размаўляла пра патрэбнае, і маўчала, калі было важна. І абяцала смачныя кактэйлі, калі выйдзем (а я нічога не забылася).

Удзячнасць да незнаёмай жанчыны, якая, пачуўшы ў сваім дамафоне мае словы: «Дапамажыце, я журналістка, мяне пераследуюць», адчыніла дзверы. Пусціла ў кватэру, падзялілася вайфаем, прапанавала накарміць і пераждывала, калі я сыходзіла.

Спачуванне да ўсіх, хто ў гэтыя дні збіты, знявечаны, дый проста ўсё гэта бачыць. Спачуванне такога ўзроўню, што я плачу з перапынкамі на паразмаўляць з лекарамі і праглынуць ежу з таблеткай.

Адчуванне ўласнае сілы. Мне сто разоў хацелася прызнацца, што я ўдзельнічала ў мітынгу, крычала лозунгі і размахвала рукамі і «пайсці дадому» — так абяцалі дзядзі ў цывільным. Потым мне было страшна спрачацца з судом і даказваць, што я не ідыётка. «Алена, заткніся, падпішы ўсё, інакш паедзеш на 15 сутак», — казаў мне адзін з маіх галасоў (у мяне іх некалькі, але шызафрэніі не дыягнаставана). Я паслухала той, за які не сорамна.

Любоў. Да мужа, які ўсе гэтыя дні не толькі шукаў мяне, выносіў мазгі маім калегам, трымаў сувязь з усімі РУУС Мінска, але і быў з дваімі малодшымі дзецьмі, сабакам і нават маёй мамай. Але самае важнае: ён адзіны з маёй сям'і, які не задаў пытання, якое выводзіць з маральнае раўнавагі: «Ну нафіга ты туды папёрлася, у цябе ж дзеці!?»

Туга па дзецях. Яна са мной заўсёды, камяком у горле. І разам з ёй пастаяннае адчуванне віны: ці зразумеюць яны, чаму мама такая? Можа, трэба проста быць з імі, без усялякага гэтага вось?

Няёмкасць. Цяпер многія пішуць словы падтрымкі, збіраюцца прыехаць у адведкі, пытаюцца, як дапамагчы, і ставяцца да мяне, быццам я праявіла нейкі гераізм. Мне няёмка ад гэтага, бо я бачу іншых герояў.

Надзея. Можна ж без каментароў, так?

***

З дыягназам «шырокі ўдар брушной паражніны і мачавога пузыра, кровападцёкі (і яшчэ нешта)» я знаходжуся ў лякарні хуткай дапамогі.

### «У міліцыі з майго сядалішча зрабілі карпáча»

39-гадовы магілёвец Дзяніс Крайцаў:

— Мяне зняволілі ўвечары 11 жніўня каля дыягнастычнага цэнтру (за 200 метраў ад гарвыканкаму). Я сядзеў на лаўцы, калі падбеглі чацвёра экіпіяваных міліцыянтаў, заламалі рукі, «укінулі» ў аўтобус. Там я бачыў толькі падлогу, берцы і чуў пагрозы з мацюкамі.

Яны выкрыквалі: «Табе не падабаецца цяперашняя ўлада і ходзіш пратэставаць?» і сумяшчалі гэта з ударамі дручка. Яны былі засяроджаныя на галаве (не дужыя) і ў асноўным бязлітасна малацілі па сядалішчы ды задняй частцы сцягна. Адбіта там усё. «Карпáча» зроблена. Пасля таго, як мяне апрацавалі ў аўтобусе, зацягнулі ў аўтазак і кінулі тварам на падлогу.

Міліцыянты дзейнічалі паводле для іх вызначанага алгарытму, нібыта выбівалі з неразумнага дзіцяці дур.

Пасля «апрацоўкі» ўсіх аўтазакам завезлі ў Ленінскі аддзел міліцыі. Там загадалі бегчы на трэці паверх у актавую залу. На лесвічных пралётах і ў калідоры стаялі міліцыянты і білі дручкамі тых, хто прабягаў паўз іх. У актавай залі на падлозе ля-


Фота Радыё Свабода

# Даніла ўпаў, і потым усе разам сталі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Данілу Луцэвіча затрымалі ў Мінску 10 жніўня. Хлопец распавядае, што збіраўся на мірны пратэст супраць фальсіфікацыі выбараў, але да месца пачатку акцыі не дайшоў.**

### Пытанне — удар

— Каля помніка Цою ля стадыёна «Дынама» мы спыніліся павітацца са знаёмымі. І туды наўпрост па газоне пад'ехалі два сінія бусы, адтуль выскачыў АМАП. Я стаяў спінай і рэфлекторна пабег. Пачуў выкрыкі: «Стой, страляць буду!», міма мяне прасвістала адна гумовая куля, другую чакаць не стаў, падняў рукі ўгару, — узгадвае хлопец.

Нягледзячы на тое, што ён не выкрыкваў ніякіх лозунгаў і ўвогуле не рабіў нічога супрацьпраўнага, да яго падбеглі трое сілавікоў: адзін ударыў ззаду па нагах, Даніла ўпаў, і потым усе разам сталі біць яго дручкамі па нагах і спіне. Потым груба паднялі, павялі ў бус, сказаўшы па дарозе, што, калі б хлопец не кінуўся ўцякаць, у яго проста паглядзелі б рэчы і адпусцілі.

— Закінулі ў бус, там паставілі на калені. У праходзе клалі чалавека на чалавека. Мне не пашчасціла: я быў апошні, каго загрузілі, таму ўсю дарогу білі кулакамі ў галаву і дубінкамі па спіне. На кожнае пытанне, калі я адказваў — не важна, як, — атрымліваў удар.

У бусе, па словах Данілы, было чацвёра затрыманых і ад 8 да 12 амапаўцаў. Хлопцаў каталі па горадзе хвілін 15, не перастаючы збіваць.

— Потым прывезлі да аўтазака — глядзець тварам у зямлю, хутка забегчы ў аўтазак. Пакуль беглі — таксама білі дручкамі. У аўтазаку больш-менш пашанцавала: на колькі месцаў ён быў разлічаны, столькі людзей і загрузілі.

У Данілы некалькі гадоў таму была сур'ёзная аперацыя на галаўным мозгу, застаўся шнар. Ён казаў пра гэта АМАПаўцам, прасіў хаця б не біць па галаве. Але пагаленую галаву і шнар на ёй сілавікі палічылі прыкметамі прыналежнасці да фанацкага ці неанацысцкага руху і білі Данілу па галаве, шчыпалі, выкручвалі вушы.

### Цудам удалося даслаць смс маці

Затрыманых прывезлі ў Ленінскі РАУС, адвялі ў нейкія гаражы, як мяркуе Даніла, для спецтэхнікі. Там іх пратрымалі суткі. Першыя 10 гадзін давялося стаяць тварам да сцяны, узняўшы рукі ўгару альбо завёўшы за спіну, у счэпцы з белых пластыкавых зацяжак. Пазней, усё гэтак жа ў счэпках, дазволілі сесці на падлогу.

Хлопцу ўдалося каля гадзіны паспаць на бетоннай падлозе, потым вязняў паднялі.


Фота Дзіяны Серадзюк

Вольга і Даніла Луцэвічы

— Дарэчы, быў вельмі прыгожы світанак, мы ўсёй камерай гэта заўважылі, — раптам задуменна дадае суразмоўца. І працягвае:

— Гадзін з 7 раніцы пачалі адпускаць тых, хто выглядаў бяскрыўдна, альбо тых, каго зразумелі, што затрымалі без уцямных прычын. А я — вялікі лысы чалавек, зразумела, што мяне трэба трымаць падольш, — іранізуе маладзён.

Адпусцілі каля 15 чалавек з 78, лёс астатніх абяцалі вырашыць у 9 гадзін, калі памяняецца змена, але нічога не вырашылі, а сказалі чакаць яшчэ тры гадзіны. Усе пяць гадзін людзі прасілі патэлефанаваць родным, але ім адказвалі, што, паколькі яны адміністрацыйна затрыманыя, яны маюць права толькі на тое, што загадвае камандаванне.

**Кожны раз, калі нас вялі ў аўтазак, у бус, у камеру, я чуў за спінай: «Апрацуй яго». У аўтазаку нас паклалі проста ў тры шэрагі паміж сядзеннямі, адзін на аднаго. Рукі былі ў жорсткай счэпцы, кроватачылі, мы прасілі аслабіць. Калі я зняў майку ў РУУСе, міліцыянт ачмурэў**

— Дарэчы, хочацца адзначыць, што міліцыянты (не АМАП, не пераапранутыя супрацоўнікі КДБ і ціхары) былі досыць ветлівыя. Большасць з іх мы ведалі па званнях, бо ў іх не былі перавернутыя пагоны. Малодшыя па званні далі нам зрабіць некалькі званкоў, і потым мы даведаліся, што на РУУС пачалі сыпаць званкі, і больш тэлефанаваць не дазволілі. Потым нейкім цудам мой сукамернік змог дастаць у сваім заплечніку тэлефон, ён адправіў паведамленне родным, і я папрасіў напісаць паведамленне маёй маме. Гэта атрымалася зрабіць у 11.37, хаця затрымалі мяне ў 19.20.

### «Прымушалі прайсці па сваіх»

Каля гадзіны дня ў РАУСе затрыманым паведамілі, што іх павязуць у Жодзіна, праз дзве гадзіны завялі ў аўтазакі. Дарога заняла каля 50 хвілін. Даніла быў у другой партыі — іх не білі. Але ён чуў удары і крыкі людзей з першай партыі.

— Кожны раз, калі нас вялі ў аўтазак, у бус, у камеру, я чуў за спінай: «Апрацуй яго». У аўтазаку нас паклалі проста ў тры шэрагі паміж сядзеннямі, адзін на адняго. Рукі былі ў жорсткай счэпцы, кроватачылі, мы прасілі аслабіць. На жаль, я хутка зажываю, таму не змагу паказаць

# Мы — сведкі

жалі пад тры дзясяткі чалавек. У ёй ужо не білі, толькі крычалі. Участковы аформіў дакументы, правёў дактыласкапію.

У малпоўні, дзе я знаходзіўся нейкі час, нас сядзела пяцёра. У ёй быў інвалід 2 групы, якога загрэблі і суткі трымалі. Яго неяк адшукаў брат, і брата кінулі ў тую ж камеру. Яшчэ адзін хлопец быў моцна збіты. Увесь сіні.

У аддзеле міліцыі блізу 22 гадзіны мне стала кепска, і выклікалі хуткую дапамогу. Доктар, аглядаючы, не дэманстравала «асаблівага энтузіязму», каб вызначыць стан пацыента. Хутка агледзела і сказала, што ўсё ў парадку. Я звяртаўся да яе сумлення, але рэакцыі не было. Потым нас завезлі ў ізалятар. У мяне ўжо не было спадзеву, што медыка для мяне выклічуць яшчэ раз. Але падчас агляду супрацоўнік сам прапанаваў. Медык, убачыўшы на твары абдзерыны, сказаў, што ёсць падазрэнне на чэрапнамазгавую траўму. Убачыўшы маё сядалішча, ён быў уражаны. Мяне забралі ў лякарню. Там і дактары здзівіліся маім пабоям, і мяне шпіталізавалі.

Цяпер я ляжу ў лякарні хуткай дапамогі. Тут супрацоўнікі з Ленінскага аддзелу міліцыі апытвалі мяне пра збіццё, а следчы са Следчага камітэта вазіў на «месца злачынства». Ля дыягнастычнага цэнтру вызначаў ахоп камераў назірання.

У пратаколах і заявах я хадайнічаю аб выняцці запісаў не толькі з камераў вонкавага назірання, але і ўнутранага ў аддзеле міліцыі.

Сітуацыю, у якой давялося аказацца, я не назаву «беззаконнем», бо гэтае слова не перадае ў поўнай меры тое, што я пражыў.

Гэта нейкі сюррэалізм. Я не магу паверыць, што гэта адбылося ў XXI стагоддзі ў еўрапейскай краіне.

### «І яны сказалі: кіньце яго ў падвал, няхай здыхае»

Маці Цімура, 16-гадовага падлетка, якога 12 жніўня ў Мінску катавалі амапаўцы:

— Яго збілі спачатку ў Фрунзенскім раёне, а пасля прывезлі ў Партызанскі. Ён пакуль не прыходзіць у сябе. Яго збівалі за тое, што ён быў чорны.

Сястра Цімура:

— Мой брат Цімур пайшоў да сябра а сёмай гадзіне вечара, яны збіраліся на рыбалку. Папярэдзіў маму пра гэта. А паколькі гэты сябра блізкі да нас, пытанняў ніякіх не ўзнікла. Яго адпусцілі з начоўкай. Ну і раніцай ён не прыйшоў дадому. Мы сталі званіць сябру. Той сказаў, што ў яго Цімура няма. Мы забілі трывогу, сталі яго паўсюль шукаць, абзваньваць, але вынікаў ніякіх не было. Пасля нам пазванілі са школы, сказалі, што Цімур у лякарні, што ім званілі з паліклінікі. Мы адразу паехалі, і ён нам расказаў, што з ім здарылася. Ён выйшаў з дому, паехаў у бок сябра на Захад-3. З аўтобуса выйшлі людзі ў цывільным, пачалі ўсіх біць. Забіралі і жанчын, і мужчын. І брата сталі біць, і засунулі ў гэты бус. Яны ляжалі адзін на адным, тыя сядзелі на іх зверху.

Здзекаваліся з іх, білі іх. Потым Цімуру засунулі дубінку ў горла. Галаву трымалі і з нагі засоўвалі дубінку ўсярэдзіну. Прымушалі спяваць гімн. Сказалі словы, і каб ён ім праспяваў, каб забаўляў іх. Ён сказаў, што яму 16 гадоў, што не могуць так з ім абыходзіцца, што ён дзіця. Але гэта іх не спыніла. Яны абражалі яго, для іх людзі — як быдла проста. Каля яго таксама здзекаваліся і з дзяцей, і з мужчын, і з жанчын.

Калі Цімур пачаў задыхацца, ён пачуў, як нехта з тых, пабачыўшы, што ён на апошнім здыханні, спытаўся: куды яго? І яны сказалі: кіньце яго ў падвал, няхай здыхае. Ну і адзін з міліцыянтаў кажа: вы што, звар'яцелі, гэта дзіця. І пачаў неяк яму дапамагаць, выклікаць хуткую. Яго спрабавалі спыніць, але гэта было бессэнсоўна, бо ў Цімура ўжо канвульсіі пачаліся. Таму ўсё ж выклікалі хуткую. Прыехала хуткая. І яго нават у хуткай білі. І яны крычалі: мы цябе знойдзем, мы цябе запомнілі.



**Сітуацыю, у якой давялося аказацца, я не назаву «беззаконнем», бо гэтае слова не перадае ў поўнай меры тое, што я пражыў. Гэта нейкі сюррэалізм. Я не магу паверыць, што гэта адбылося ў XXI стагоддзі ў еўрапейскай краіне**

Цімур у паніцы, у стрэсе. Бо яго і ў хуткай білі, і ў міліцыі білі, і на вуліцы білі. А дзіця, гэта факт, у нармальны час проста пайшло да сябра. Цяпер ён быў у коме. Яго штучна ўвялі ў кому, бо ён не мог дыхаць увогуле. Таму ён быў у коме і на апараце ШВЛ. Пасля яго сталі выводзіць з медыкаментознага сну, і ён пачаў патроху прыходзіць у сябе. Яго білі электрашокам па пятах, у яго цяпер вельмі моцна баляць ногі, і невядома, якая рэабілітацыя яму спатрэбіцца. У яго на гэты момант не бачаць вочы. Хутчэй за ўсё, таму, што яны апухлі. Яго дручком білі ў вочы. Таму са зрокам таксама яшчэ не зразумела, што там будзе і як. У яго вельмі моцна баліць шыя, патыліца, грудная клетка. Увогуле, у яго баліць усё, бо яны білі без разбору, хто куды пацэліць. А самыя зверствы прыпадалі на твар.

Цімур знаходзіцца ў 3-й гарадской дзіцячай клінічнай лякарні.

# біць яго дручкамі па нагах і спіне

вам. У мяне застаўся адзін сіняк на спіне, а іх было як мінімум 5. Калі я зняў майку ў туалеце ў РУУСе, міліцыянт ачмурэў.

У аўтазаку ў Данілы спыталі, ці ўдзельнічаў ён у пратэстах, але адказ быў не важны: ён проста атрымаў у вуха. Счэпкі на руках сталі аслабляць хвілін праз 20, калі ўбачылі, што рукі ў вязняў ужо сінеюць. Данілу дазволілі сесці на падлогу, калі пачулі адказ на пытанне, адкуль у яго шнар на галаве.

— Калі нас грузілі і вялі ў канец аўтазака, прымушалі прайсці па сваіх. Такім чынам аднаму чалавеку вывіхнулі плячо. Калі ён стаў крычаць, амапавец усіх разгроб, як смецце — да нас ставіліся, як да жывёл, як да смецця, — плячо ўправілі, але ўсё роўна паклалі на яго кучу людзей.

### У камеры былі лекцыі па гісторыі, праграмаванні

Па прыездзе, распавядае хлопец, іх проста выкінулі з аўтазака, паставілі на калені. Выклікалі і прымушалі бегчы да камандуючага. Калі бег занадта марудна — білі. Калі занадта хутка, як Даніла, — таксама.

— Я проста не ведаў, куды бегчы, падарваўся, калі пачуў сваё прозвішча, падбег — і атрымаў у галаву кулаком.

Даніла яшчэ неаднаразова атрымліваў удары. Потым вязняў выстраілі ў дзве шарэнгі і прымусілі бегчы па калідорах каля паўкіламетра. Пасля іх прывялі ў прагулачную камеру — бетонныя сцены і зверху краты, зверху хадзіць канвой. Вязням далі вядро, каб схадзіць па патрэбе, і трымалі іх у гэтым памяшканні дзве гадзіны, пакуль шукалі камеры. Потым — зноў паўкіламетра яны беглі па калідорах і лесвіцах, каб заблытаць.

— Камера была 4х6 метраў, было 6 ложкаў. Калі мы прыехалі, там ужо было 6 чалавек, з намі стала 12, і ўвечары засялілі яшчэ траіх. Але гэта яшчэ было добра.

Данілу прывялі ў 33-ю камеру на першым паверсе. Ён зазначае, што яго сукамернікамі былі добрыя, інтэлігентныя людзі, а не п'яніцы і наркаманы.

— Насамрэч, гэта былі самыя вясёлыя чатыры дні, калі не браць збіццё. Кармілі нармальна. Спаць было кепска, але цэлы дзень ты не думаў, што ў турме. Хлопцы дапамаглі, дзякуй ім! Яны не далі ўпасці духам, адзін аднаго падтрымлівалі. У нас былі лекцыі па гісторыі, бо сядзеў гісторык, па праграмаванні. З розных галін хлопцы дзяліліся сваім досведам.

Стаўленне з боку турэмнай адміністрацыі таксама было нармальнае, хоць просьбы вязняў ігнараваліся.

Тых, каго прывезлі на дзень раней, на трэція суткі пачалі судзіць. А вось з партыяй, у якую трапіў Даніла, паступілі інакш.

— Мяне паднялі ў 5.40, максімальна ветліва вывелі ў калідор, адвялі на «суд» — нават не далі прачытаць пратакол, проста падпісвай, што прымаў удзел у масавым мерапрыемстве і выкрываў лозунгі. Я напісаў, што часткова згодны, таму што не выкрываў лозунгі. Трэба было пагадзіцца, таму што закрылі б на большы час. Унізе я напісаў, што абавязуюся з'явіцца ў суд, чакаю позву па месцы жыхарства. Потым нас павялі ў камеру, дзе «захоўваліся» нашыя рэчы — усё было раскідана, на падлозе валяліся грошы, пярсцёнкі, завушніцы, тэлефоны былі разбітыя.

Пасля гэтага вязняў вывелі з ізалятара, дзе іх сустрэлі валанцёры і родныя.

### «У слязах можна ўтапіць увесь наш АМАП»

Мама Данілы Вольга Луцэвіч гаворыць, што нейкім дзіўным чынам нібыта пралічвала ўсё наперад у гэтыя дні. Калі ўвечары 10 жніўня сын не адказаў на паведамленне, а потым яго тэлефон быў недаступны, яна адразу зразумела, што ён затрыманы.

— Я хачу распавесці пра інфармацыйную блакаду. Пачала шукаць, як знайсці чалавека. У мяне з'явіліся тэлефоны ўсіх РАУСаў, Акрэсціна, Жодзіна. Стала званіць, па 250 тэлефанаванняў — ніякай інфармацыі. Калі я на наступны дзень датэлефанавалася на Акрэсціна, узялі слухаўку і паклалі яе побач. І я ў працоўным рэжыме пяць хвілін чула жорсткі мат, на якім яны размаўляюць паміж сабой.

Калі жанчына паехала пісаць заяву аб знікненні сына, яна атрымала СМС і зразумела, што яно ад яго. Вользе паабяцалі паведаміць, калі з'явіцца інфармацыя пра Данілу. Але вось ён ужо дома, а з ёй так ніхто і не звязаўся.

У сераду раніцай Вользе Луцэвіч патэлефанавалі сынавы сябры і сказалі, што збіраюцца ехаць па ўсіх РАУСах, на Акрэсціна, калі трэба — у Жодзіна. Вольга з хлопцамі ездзіла паўсюль, але нідзе не магла знайсці інфармацыю пра сына.

— На наступны дзень мне паступіла інфармацыя, я нават не ведаю, праз якія крыніцы, што ён знаходзіцца ў Жодзіна, у СІЗА. Пасля таго, што бачыла на Акрэсціна, я адчула палёгку, бо ішла інфармацыя, што там больш-менш нармальна ставяцца, кормяць. Праз некаторы час — заканчваліся трэція суткі — яго прозвішча з'явілася ў спісах.

Вольга зазначае, што сілавікі ўмеюць апаратыўна затрымліваць, але не даюць інфармацыю, і называе гэта сабатажам і генацыдам.

— Колькі праліта не толькі мацярынскіх, але і бацькоўскіх слёз — я іх бачыла, — у гэтых слязах можна ўтапіць увесь наш АМАП.

Жанчына ўзгадвае, што супрацоўнікі ізалятара нармальна размаўлялі са сваякамі затрыманых, паабяцалі спісы, і праз некаторы час вынеслі 64 аркушы з напісанымі ад рукі імёнамі, датамі нараджэння і прысудамі, калі суды адбыліся.

— Калі я ўбачыла, што насупраць Данілы стаіць прочырк, я зразумела, што трэба чакаць. Валанцёрамі ўсё было арганізавана ідэальна: гарачая гарбата, кава, садавіна, печыва, пледы. Людзі пастаянна нешта неслі, каб дапамагчы, бо мы разумеем, што ўсе ў адным катле. Я ніколі не ведала, што беларусы могуць так аб'яднацца.

Вязняў па тры чалавекі выпускалі да дзвюх гадзін ночы. Потым — перапынак. Вользе Луцэвіч давялося спаць наўпрост на елцы, сябру яе сына — на суседняй яе галіне.

— У 6.39 пачула: ідуць! А сын ужо запісваецца ў валанцёраў. Я яго абняла, а калі ён падняў мяне на рукі, я зразумела, што маё дзіця ў парадку.

Але пасля таго, як Данілу вызвалілі, многія яшчэ засталіся ў зняволенні. Таму сям'я Луцэвічаў перакананая, што варта ўсім, хто трапіў у падобную сітуацыю, дзяліцца сваімі гісторыямі.

— Трэба чакаць, бо рана ці позна яны знойдуцца, — звяртаецца Вольга Луцэвіч да тых, хто не можа атрымаць звестак пра сваіх зніклых родных. — Але трэба разумець, што залежыць ад цябе ў дадзены момант. І спрабаваць пераключацца з сумных думак, калі ты зрабіў усё, што ад цябе залежыць. А яшчэ старацца дапамагаць іншым. Нельга заставацца аднаму ў гэтай сітуацыі, важна ўтрымаць стабільны псіхічны стан.

— А ўсім беларусам я хацеў бы пажадаць цярпення, і не баяцца. Усё мінае, — дадае Даніла.

# Краіна Хлусні, або Хто сфальсіфікаваў выбары

Тамара МАКЕВІЧ

**Падзеі разварочваюцца так хутка, што, пакуль пішацца тэкст, ён можа стаць неактуальным. Таму напішу адзін прагноз, якому, на вялікі жаль, наканавана спраўдзіцца. Незалежна ад таго, як будуць разгортвацца падзеі, 1 верасня настаўнікі масава сутыкнуцца з непавагай і абразамі як з боку бацькоў, так і вучняў.**




Пратэсты настаўнікаў




Флэш-моб вучняў

Ужо цяпер мы бачым, як да школ былыя вучні нясуць свае дыпломы і ўзнагароды, вывешваюць плакаты накшталт «Грошы на рамонт не здаём — вазьміце іх з продажу вашага сумлення».

Беларусы, якія 26 гадоў жылі ў хлусні і страху, настолькі раззлаваныя, што ўсю крыўду за скрадзеныя галасы і запушчаны махавік крывавых рэпрэсій, за ахвяры і катаванні, якія мы маем у змаганні за праўду, будуць вымяшчаць на настаўніках.

Такая сітуацыя склалася таму, што збольшага ў нашай краіне выбарчыя ўчасткі знаходзяцца ў школах. І масавая думка асацыюе настаўнікаў з фальсіфікатарамі выбараў, хаця ў камісіях іх магло і не быць. Людзі абсалютна справядліва абвінавачваюць сябраў камісій, што тыя запусцілі ваенныя дзеянні рэжыму супраць уласнага народа. У тым, што так доўга трымаўся гэты рэжым вінаватыя не толькі камандзіры, але і выканаўцы: сёлета развязалі вайну чальцы камісій, якія не палічылі галасы, не вывесілі выніковыя пратаколы, не пусцілі незалежных назіральнікаў на падлік галасоў, выклікалі АМАП на людзей, якія чакалі вынікаў выбараў каля сваіх участкаў, а самі ўцяклі пад прыкрыццём міліцыі. Увечары 9 жніўня карнікі па ўсёй краіне лупцавалі ў дварах школ, лавілі па пад'ездах выпускнікоў і бацькоў вучняў.

Я пішу гэта, ведаючы пачуцці людзей, бо сёлета самой разам з суседзямі, давялося хавацца ад групы зачысткі ў сляпянскім лесе. За мірнымі людзьмі з дзецьмі на руках гналіся трэніраваныя «ахоўнікі парадку», прасвечваючы лес страбаскапічнымі ліхтарыкамі, крышачы па дарозе дубінкамі дзіцячыя веласіпеды і крэслы. Тых, хто не ўцёк, пазакідалі ў аўтазак.

Хутчэй за ўсё, раз'юшаныя і пакрыўджаныя людзі не будуць разбірацца, хто з настаўнікаў быў у камісіі, а хто — не. У час пострпраўды лягчэй сфарміраваць у сваім уяўленні вобраз ворага, чым разабрацца, што НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКІ БЫЛІ ЧАЛЬЦАМІ КАМІСІЙ. Насамрэч, настаўнікаў там была меншасць. Напрыклад, у Партызанскім раёне Мінска 37 участковых камісій, 27 з якіх фізічна размяшчаюцца ў школах і іншых навучальных установах. Пры гэтым толькі 3 участковыя камісіі сфарміраваныя з супрацоўнікаў школ, а гэта не значыць, што ўсе яны — настаўнікі. Атрымліваецца, не больш за 8,1% ад агульнага складу чальцоў камісій Партызанскага раёна Мінска — педагогі. Для параўнання, з працаўнікоў МТЗ у Партызанскім раёне сфарміравалі 8 камісій (21,6%), маторнага заводу — 3 камісіі, заводу шасцерняў — 3 камісіі, з дактароў — таксама 3 камісіі, па 1–2 камісіі сфарміраваныя з прдстаўнікоў іншых дзяржаўных прадпрыемстваў. Магчыма, па настаўніку яшчэ былі ўключаныя ў іншыя камісіі, каб тыя маглі арыентавацца ў будынку школы. Чаму ж не абвяшчаецца байкот наменснікам дырэктараў заводаў па ідэалогіі — самай масавай групе сярод старшынь-фальсіфікатараў?

Магчыма, у раённых гарадах колькасць настаўнікаў у УВК будзе крыху большай за сталічную, а ў вёсках настаўнікаў будзе менш — там школы пазачынялі. Папросту настаўнік — масавая прафесія.

**Раз'юшаныя і пакрыўджаныя людзі не будуць разбірацца, хто з настаўнікаў быў у камісіі, а хто — не. Лягчэй сфарміраваць у сваім уяўленні вобраз ворага, чым разабрацца, што НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКІ БЫЛІ ЧАЛЬЦАМІ КАМІСІЙ**

### Што рабіць

Па-першае, трэба падрыхтаваць інфармацыю па сваёй школе, магчыма, зрабіць невялічкія ўлёткі для бацькоў, змясціць інфармацыю на школьных сайтах, у бацькоўскіх чатах. Напішыце там, колькі настаўнікаў працуе ў вашай школе, колькі з іх былі чальцамі камісій. Можа аказацца, што ніводнага або вельмі мала. Калі ж такія былі — абавязкова пералічыце прозвішчы, папрасіце прабачэння за калег і напішыце, што педагагічны калектыў дасць ацэнку іх дзеянням і абавязкова праінфармуе бацькоў. Вядома, што каля 200 участкаў могуць пахваліцца сумленным падлікам галасоў. Магчыма, такі ўчастак якраз быў у вашай школе. Напішыце пра гэта.

Па-другое, сапраўды збярыце інфармацыю аб выбарах і дайце ацэнку. Ці лічыла камісія галасы, ці вывесіла пратакол для азнаямлення. Цяпер улады, якія трымаюцца за мінулае, хочуць нашу ўвагу пераключыць на гвалт, а не яго прычыны. Фальсіфікатараў-настаўнікаў абавязкова трэба будзе выдаліць са школы, можа нават скараціць пасаду намесніка па выхаваўчай рабоце. Уяўляеце, колькі грошай можна будзе пусціць на заробкі прадметнікам, бо, я ўпэўнена, у наступным годзе больш не будзе патрэбы прымушаць дзяцей да БРСМу, паходаў на хакей і іншай паказухі.

Па-трэцяе, калі ў вашай школе працавала камісія, сфарміраваная з працаўнікоў іншага прадпрыемства, паведаміце пра гэта бацькам. Магчыма, яны працуюць на гэтым прадпрыемстве, і менавіта па іх недаглядзе ў выбарчую камісію патрапілі несумленныя людзі. Напішыце ноту пратэсту таму прадпрыемству, якое псуе імідж вашай школы. Няхай разбіраюцца. Спісы камісіяў не цяжка знайсці ў інтэрнэце.

Па-чацвёртае, праяўляйце актыўнасць. Далучайцеся да структур, якія будуюць новы лад: яны каардынуюцца праз шматлікія прафесійныя і тэрытарыяльныя чаты ў сацсетках. Выходзьце з прафсаюзу, бо ён толькі вас кантралюе, а не бароніць. Дапамагайце збіраць доказы фальсіфікацый: калі ёсць копія пратакола — дашліце яе на сайт ці чат «Голас». Там грамадскасць збірае факты, што выбары былі сфальсіфікаванымі. Гэта першы крок для таго, каб не прызнаць іх вынікі і абвесціць новыя. Толькі пасля сумленных свабодных выбараў пачнецца аздараўленне краіны і сістэмы адукацыі.

### Пра каштоўнасці

Беларусы ніколі не трывалі хлусні і зладзейства, але давалі шанец выправіцца як хлусу, так і злодзею. З дзяцінства памятаю хаты без замкоў і размовы пра нейкага Толіка з суседняй вёскі. Усе ведалі, калі штосьці знікла — то мог скрасці толькі ён. Больш злодзеяў у наваколлі не было.

Але здарылася так, што 26 гадоў нашай краінай правіў хлус і злодзей. Беларусы шмат разоў спрабавалі выправіць сітуацыю праз дэмакратычныя працэдуры — давалі шанец яму сысці, але ён працягваў хлусіць і красці нашы галасы на выбарах і рэферэндумах, і на працягу 26 гадоў будаваў Краіну Хлусні. Фальшывым у гэтай краіне было ўсё: школьныя адзнакі, «добраахвотная» падпіска, інфармацыя на стэндах, патрыятычныя арганізацыі, рэйтынгі і спаборніцтвы. Усё гэта адымала сілы ў настаўнікаў і прымушала да хлусні дзяцей, правакавала бюракратыю. Праўдзівымі былі толькі страх і халуйства, без якога немагчыма было працаваць у адукацыі, рабіць кар'еру. Але сёлета беларусы не вытрывалі.

Тое, што цяпер адбываецца, я б назвала разбурэннем гэтай Краіны Хлусні іператварэннем яе ў нашу Беларускую Беларусь. Настаўнікі ўпершыню выйшлі пратэставаць. 14 жніўня мы ішлі 5-тысячным шэсцем уздоўж перакрытага праспекта і адчувалі, наколькі хісткая нашая надзея. Нас так лёгка знішчыць, звольніць па адным. Але праз пару дзён некалькі мільёнаў беларусаў на плошчах гарадоў і вёсак сказалі хлусу: «Сыходзь!» І мы разумеем, што краіна ніколі не будзе ранейшай. І можа ўжо 1 верасня нашы дзеці пойдуць у свабодную школу свабоднай краіны, дзе настаўнікі будуць вучыць дзяцей, а не дагаджаць адміністрацыі.

Самае прыемнае ў час пераменаў — гэта трыумф праўды і маралі. Ці стане нормай не баяцца, не хавацца, не хлусіць — залежыць цяпер ад нас.

# Хапун, што змяніў краіну

Алег НОВІКАЎ

**Неаднаразова жорсткія падаўленні дэманстрацый былі пралогам нацыянальных рэвалюцый. Як прыклад — падзеі ў Румыніі 30-гадовай даўніны.**





Фота www.gazeta.ru

Як ні смешна, аднак спускавым кручком гэтай гісторыі сталі асабістыя забабоны румынскага дыктатара Нікалаэ Чаўшэску. Генію Карпат — так любіў называць яго афіцыёз — была ўласцівая любоў да ўсяго гіганцкага. З гэтых прычынаў у пачатку 1989 года ён вырашыў стварыць буйныя сельскагаспадарчыя комплексы на тэрыторыях пражывання этнічных венграў у Трансільваніі. У рамках рэалізацыі плана, які быў названы «сістэматызацыяй», прадугледжвалася ліквідацыя 15–17 тысяч мясцовых вёсак.

Лагічна, што геніяльная ідэя лідара выклікала нараканні сялян, якія публічна агучваў пратэстанцкі прапаведнік Ласла Цёкеш з горада Тымішаара. У сваіх выступах ён адкрыта выказваўся супраць планаў уладаў і заклікаў у тым ліку да пасіўнага і актыўнага супраціву. Такая актыўнасць не магла прайсці міма ўвагі спецслужбаў. Улетку 1989 года знік адзін з паплечнікаў Цёкеша. Яго знайшлі праз некалькі дзён у лесе, прывязаным да дрэва і расстраляным ва ўпор. Падазраюць, што яго забілі супрацоўнікі сакрэтнай службы Секурытатэ.

Неўзабаве, 16 снежня 1989 года прыйшлі і за самім Цёкешам. Афіцыйна — каб выселіць з дома ў горадзе Тымішаара з-за распальвання міжнацыянальнай варожасці. Пратэставаць у абарону пастара выйшлі спачатку ўсе прыхаджане, потым усё венгерскае насельніцтва гораду, а пасля — і ўвесь горад.

Імгненна першапачатковая прычына выступу (абарона прапаведніка) была забытая, і пачалі гучаць антыкамуністычныя і антыўрадавыя лозунгі. Яны нарадзіліся не на пустым месцы. Жадаючы хутчэй расплаціцца па фінансавых абавязках перад МВФ, Чаўшэску запатрабаваў жорстка эканоміць электрычнасць. Румыны ў той час былі вымушаныя практычна па графіку выключаць святло ў дамах. Сваю ролю адыграла і псіхічная стомленасць людзей ад фігуры Генія Карпат, які кіраваў краінай амаль 30 гадоў.

Так ці інакш, натоўп арганізавана рушыў да цэнтру Тымішаары, спрабуючы спачатку мірна паразмаўляць з прадстаўнікамі гаркама партыі і мэрыі. Калі да месца падзей прыбыла міліцыя, пачаліся сутычкі. У выніку міліцыянтам удалося адціснуць маніфестантаў з цэнтру. Затое тыя здолелі адбіць у іх вадамёты, якія адразу выкінулі ў раку.

Наступным аб'ектам атак удзельнікаў пратэсту сталі... кнігарні. Не толькі таму, што ў румынскіх прадуктовых крамах тады было пуста. Захапіўшы кнігарні, маніфестанты развялі вогнішчы і неміласэрна палілі ў іх кнігі, аўтарам якіх быў Чаўшэску. Ужо раніцай 17 снежня натоўп зноў рушыў у напрамку гаркаму, але на гэты раз мітынгоўцам удалося ўварвацца ўнутр будынку.

Пра гэта неадкладна даклалі самому Чаўшэску, які адразу аддаў загад Секурытатэ і ўзброеным сілам страляць у дэманстрантаў на паразу. Калі верыць некаторым крыніцам, салдаты стралялі ў мітынгоўцаў з вельмі невялікай адлегласці, выкарыстоўваючы забароненыя кулі «дум-дум». Гэтыя кулі лёгка разрываюцца пры трапленні ў цэль. Так, пры трапленні куляў у галовы дэманстрантаў, іх чарапы разляталіся на фрагменты. Такім чынам, у мітынгоўцаў практычна не было шанцаў выжыць пасля ранення.

Паводле розных ацэнак (афіцыйных і неафіцыйных), было забіта ад 50 да 600 чалавек. Амерыканскія СМІ пазней пісалі, што тагачасны прэзідэнт ЗША Джордж Буш-старэйшы нібыта нават звяртаўся да Гарбачова з просьбай накіраваць у Румынію савецкія войскі, і пакласці канец бойні.

Між тым, разагнаўшы дэманстрантаў, каманда Чаўшэску сутыкнулася з праблемай — што рабіць з такой колькасцю трупаў? Па асабістым загадзе жонкі дыктатара Алены Чаўшэску, ужо вечарам 17 снежня пачалася аперацыя «Ружа» з мэтай замесці сляды масавага расстрэлу. Трупы тымішаарскіх дэманстрантаў былі загорнутыя ў мяхі і сакрэтна дастаўленыя на машынах у сталіцу для спалення ў крэматорыі. Попел спаленых быў загружаны на яшчэ адзін грузавік, вывезены далёка за горад, дзе яго высыпалі. У прэсе пішуць, што сваякам расстраляных у моргу, былі выдадзеныя чужыя целы — целы людзей, якія загінулі па натуральных прычынах, твары якіх знявечылі.

А пасля пачалося самае неверагоднае. Татальная сакрэтнасць аб дэталях аперацыі ў Тымішаара, якую афіцыёз называў «выхадкай хуліганскіх элементаў», не дапамагла схаваць праўду. Шок ад яе быў такі моцны, што румыны забыліся пра страх перад сістэмай. 20 снежня мітынг, які планаваўся прыхільнікамі Чаўшэску як дэманстрацыя лаяльнасці румынскага народа, ператварыўся ў маніфестацыю разгневаных румын.

У тым ліку пад лозунгамі помсты за ахвяраў Тымішаара ў Бухарэсце пачаліся антыўрадавыя выступы. Неўзабаве паліцыя і армія аказаліся паралізаваныя, а частка высокапастаўленых ваенных перайшла на бок паўстанцаў. Адзінай магчымасцю выратавацца ад паўстанцаў для пары Чаўшэску сталі ўцёкі на верталёце з даху палаца прэзідэнта. Аднак у выніку Чаўшэску з жонкай усё адно былі злоўленыя і расстраляныя.

Румынскія і міжнародныя гісторыкі дасюль спрачаюцца, ці былі падзеі ў Румыніі ў снежні 1989 года стыхійным пратэстам, або ўсё ж гэта — вынік змовы ваенных і партыйцаў. Пісалі, што ўнутры арміі дзейнічала група афіцэраў — прыхільнікаў курсу Гарбачова, якая і схіліла салдат перайсці на бок пратэстоўцаў, што і вырашыла лёс паўстання. Але нават такая версія не дае падставу для сумневаў, што галоўным імпульсам румынскай рэвалюцыі стала гнеўная рэакцыя людзей на крывавы хапун у Тымішаара.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА ПАДЗЕІ Ў БЕЛАРУСІ

**Дамінік РААБ, кіраўнік МЗС Вялікабрытаніі:**



«Свет з жахам назіраў за гвалтам, які выкарысталі ўлады Беларусі для здушэння мірных пратэстаў услед за фальсіфікаванымі прэзідэнцкімі выбарамі. (...) Каралеўства ў партнёрстве з саюзнікамі будзе дамагацца пакарання вінаватых у рэпрэсіях і прыцягнення да адказнасці беларускіх уладаў. Прычыны, па якіх Беларусь правяла несумленныя выбары, павінна расследаваць Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ)».



**Штэфі ЗАЙБЕРТ, афіцыйны прадстаўнік урада ФРГ:**

«Я хацеў бы ад імя канцлера Ангелы Меркель рашуча асудзіць прымяненне жорсткага гвалту супраць мірных дэманстрантаў. Канцлер асабліва асуджае, што тысячы людзей былі затрыманыя проста з-за іх удзелу ў мірных пратэстах. Яна абураная паведамленнямі пра тое, што з імі жорстка абыходзіліся. Беларусь павінна неадкладна і без папярэдніх умоў вызваліць людзей і забяспечыць іх правы на сходы, выказванне меркавання і атрыманне інфармацыі. Урад ФРГ падтрымлівае ўсіх людзей, якія мірна выказваюць сваю волю, што ў дэмакратыі з'яўляецца правам кожнага асобнага чалавека. Тое, што гэта фундаментальнае права ў Беларусі топчуць нагамі, абсалютна не прымальна».



**Гітанас НАЎСЕДА, прэзідэнт Літвы:**

«Аляксандр Лукашэнка не можа лічыцца легітымным прэзідэнтам, паколькі ў Беларусі не было свабодных і дэмакратычных выбараў. Свет і міжнародная супольнасць павінны далучыцца да вырашэння гэтай сітуацыі і прымаць актыўны ўдзел у вырашэнні канфлікту».



**Эмануэль МАКРОН, прэзідэнт Францыі:**

«Еўрапейскі саюз павінен працягваць мабілізацыю разам з сотнямі тысяч беларусаў, якія мірна выступаюць за павагу сваіх правоў, свабод і суверэнітэту».

**Ан ЛІНДЗЕ, міністр замежных спраў Швецыі:**



«Я вельмі сур'ёзна гляджу на тое, што адбываецца ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў. Паліцыя ўжыла гвалт супраць дэманстрантаў непрапарцыйным і непрымальным спосабам. Былі затрыманыя як пратэстоўцы, так і журналісты. Ёсць паведамленні пра некалькіх траўмаваных, і нават інфармацыя пра загінулых. (...) У Беларусі ёсць вялікая патрэба ў дэмакратычных пераўтварэннях і рэформах. Мне відавочна масавае жаданне народу да пераменаў».

**Олаф ШОЛЬЦ, віцэ-канцлер Германіі і адзін з кандыдатаў у пераемнікі Ангелы Меркель:**



«Лукашэнка размаўляе з народам на адзінай даступнай яму мове сілы, паколькі даўно страціў падтрымку. Я цвёрда перакананы, што ў гэтага прэзідэнта больш няма ніякай легітымнасці, інакш бы ён ні кіраваў краінай такімі жорсткімі метадамі і такой грубай сілай».

# Пасля Вялікага тэрору: «мазгі ў столь», «вальс», «ледавік»

Таццяна ПРОЦЬКА

**У мінскай турме — «амерыканцы» — быў арганізаваны адмысловы рэжымны корпус, куды накіроўваліся ўжо асуджаныя на смерць, але якія, на думку следчых, не далі цалкам праўдзівых паказанняў. Асуджаныя дапытваліся зноў, але ўжо ў якасці сведак, да іх ужываліся асабліва жорсткія катаванні...**



Увосень 1938 года кіраўнікі Савецкай дзяржавы і Камуністычнай партыі вырашылі, што Вялікі тэрор дасягнуў вызначаных мэтаў — носьбіты іншадумства былі або знішчаныя, або ізаляваныя. Але дадатковым эфектам, як высветлілася, стала практычна бязмежная ўлада спецслужбаў.

Партыйнае кіраўніцтва аказалася адсунутым на другі план — як у свядомасці людзей, так і ў рэальнасці. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны кіраўніцтву СССР, і перш за ўсё Сталіну, гэта здалося немэтазгодным і ў пэўным сэнсе нават небяспечным. Каб вярнуць давер людзей, 17 лістапада 1938 года ЦК ВКП(б) і СНК СССР прынялі пастанову «Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства». У пастанове праведзеная спецслужбамі праца (якую сёння называюць Вялікі тэрор) была ў цэлым ухваленая, але быў прапанаваны шэраг яе паляпшэнняў у будучыні.

### Рэпрэсіі да тых, хто рэпрэсаваў

У развіццё пастановы Камуністычнай партыі НКУС СССР выдаў загад №00762 ад 26.11.1938 года, які абавязваў правесці расследаванні ўсіх выпадкаў парушэнняў «рэвалюцыйнай законнасці» і з гэтага дня прыпыніць расстрэлы. У Беларусі расследаваннем парушэнняў пачаў займацца аддзел арганізацыйна-партыйнай работы (ААПР) ЦК КП(б)Б (загадчык Прохараў). Сюды паступалі матэрыялы з партыйных арганізацый, заявы грамадзян, азнаёміўшыся з якімі кіраўнікі ААПР выклікалі «для размовы» начальнікаў аддзелаў НКУС.

Аналагічнай працай па расследаванні злачынстваў раённых аддзелаў НКУС займаліся ААПР абкамаў. Праверкай займаліся таксама пракуратуры абласцей з прыцягненнем пракурораў раёнаў. Вынікі праверкі ўзгадняліся з сакратарам райкама КП(б)Б. Пачаліся рэпрэсіі ў дачыненні да тых, хто рэпрэсаваў. Вось толькі некаторыя прыклады таго, што высветлілі новыя следчыя пра Вялікі тэрор. Пра тое, як здабываліся прызнальныя паказанні, можна даведацца з матэрыялаў Нацыянальнага Архіва Беларусі і матэрыялаў следчых спраў, якія захоўваюцца ў архівах КДБ Беларусі.

Хадайніцтва аб прыцягненні да судовай адказнасці было ўзбуджанае супраць начальніка Аршанскага гарадскога аддзела НКУС Шчурава, які расстраляў 14 чалавек ужо пасля загаду аб прыпыненні расстрэлаў, афарміўшы прысуд пра выкананне мінулымі датамі. Працуючы начальнікам 3-га аддзялення Магілёўскага УНКУС, ён ствараў у камерах, дзе знаходзіліся арыштаваныя, агентуру з крымінальнікаў.

Апошнія здзекаваліся з вязняў, змушаючы іх даваць прызнальныя паказанні. Крымінальнікамі ў камерах былі забітыя 8 чалавек. Пад прымусам адзін з вязняў напісаў, што ў Шклоўскім раёне, дзе ён жыў, 18 чалавек з'яўляюцца ворагамі. Іх адразу арыштавалі і пасадзілі ў гэтую ж камеру. Пасля збіцця ўсе далі прызнальныя паказанні, хаця, як было ўстаноўлена, былі невінаватымі.

Быў арыштаваны начальнік Чэрыкаўскага РА НКУС В. Балалаў. Апошні арыштаваў старшыню Сенненскага райвыканкама Я. Падалякіна як удзельніка «арганізацыі правых», прымушаў яго падпісаць пратакол з прызнаннем. Старшыня супраціўляўся 9 дзён, на працягу якіх яго збівалі жалезным шомпалам ад вінтоўкі, 4 дні не давалі ежы. Але ён застаўся жывы.

Дапытаны ў ЦК КП(б)Б Падалякін паказаў: «Калі я адмовіўся пацвердзіць "свае" раней дадзеныя паказанні, Балакін пачаў мяне збіваць, акрамя гэтага, узяў за чэлес, заклаў у дзверы і пачаў прыціскаць, пры гэтым пытаўся: "Будзеш падпісваць пратакол ці не? А калі не падпішаш, то заціску зусім твой чэлес, а цябе выкіну ў скрыню для смецця"».

Пра метады вядзення следства ў Мінску расказана ў лісце асуджанага рэдактара газеты «Звязда» Н. Сцерніна, які ён даслаў на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б Пятра Панамарэнкі 29 ліпеня 1939 года (з лютага 1939 года вязням дазволілі пісаць скаргі кіруючым работнікам НКУС і КП(б)Б). Невядома, ці патрапіў тады гэты ліст да адрасата, аднак 7 траўня 1960 года пры «прывядзенні ў парадак матэрыялаў асобага сектара ЦК КП(б) за 1930–1941 гады», ён быў знойдзены і перададзены першаму сакратару ЦК КПБ К. Мазураву. На справе, у якой захоўваецца ліст, стаіць пазнака «ў чытальную залу не выдаецца».

З ліста вынікае, што ва ўсіх, выпушчаных з турмы НКУС, бралася падпіска-абавязацельства «нікому нідзе не казаць пра тое, што стала вядома за час знаходжання ў турме аб працы следчых органаў НКУС». Разгалошванне гэтых звестак каралася як разгалошванне дзяржаўнай таямніцы.

### Катаванні як сістэма

Сцернін быў абвінавачаны ў шкодніцтве «ў галіне народнай адукацыі» і аднесены да «нацыянал-фашысцкай часткі антысавецкага падполля». Следчыя патрабавалі, каб ён прызнаўся ў тым, што быў кіраўніком «новага цэнтра», быў завербаваны Гікалам і даў паказанні супраць 200 чальцоў цэнтра. Следчыя казалі арыштаванаму: «Ты не бойся. Ты ніколі ў жыцці з імі не сустрэнешся. Напішаш — змесцім у добрую камеру, дамо прадуктовы паек, кнігі чытаць, а праз год-два вызвалім. Не будзеш пісаць — згноім у склепе, пераламаўшы косткі, скуру спусцім, пакалечым органы, арыштуем тваю сям'ю, а цябе расстраляем як ворага, што не раскаяўся. Ты — у нашых руках. Перад тым, як расстраляць, мы знойдзем сродкі прымусіць цябе напісаць усё, што нам трэба». Пасля такіх катаванняў «10 гадоў турмы прадстаўляліся як шчасце».

Зняволеных аблівалі вадой і ставілі на скразнякі і холад, ужывалі «канвеер» — на працягу некалькіх сутак (Сцернін стаяў чацвёра (!) сутак) «падследны стаіць у салдацкай стойцы са сціснутымі нагамі, ссунутымі наскамі і апушчанымі ўздоўж корпуса рукамі. Яму не даюць у гэты час прысаджацца з месца, не даюць ні ежы, ні вады». У гэты час следчыя, змяняючы адзін аднаго, вядуць допыт. На «канвееры» ў людзей апухалі рукі і ногі, яны не маглі хадзіць, з-за адсутнасці сну наступалі галюцынацыі.

Следчыя выкарыстоўвалі прыём «мазгі ў столь» — на шыю арыштаванага накідваўся рэмень, і моцным ударам выклікалася страсенне мозгу. У вязня пачыналіся самыя моцныя галаўныя болі, галава «гарэла», людзі вар'яцелі. Следчыя білі абцасамі па нагах (прыём «вальса») зняволеных, якіх трымалі нагамі, загнутымі да галавы, улівалі праз нос ваду. «Гэта — невыносная пакута, бо здаецца, што вада пранікае ў самы мозг. Задыхаешся, захлёбваешся — здаецца, што паміраеш». Часам замест вады ўлівалі нашатырны спірт.

Арыштаваных прымушалі гадзінамі ляжаць на вострым рабры табурэткі да падлогі галавой і нагамі, рвалі валасы і калолі ў гэтыя месцы шпількамі. Збівалі брыгадамі — «гулялі ў футбол». Жанчын, якія трапілі ў турму, таксама білі і, як мяркуе Сцернін, гвалтавалі.

Для правядзення масавых арыштаў былі ўсталяваныя «ліміты» — колькі чалавек трэба арыштаваць за кампанію. Для Гомеля «ліміт» быў усталяваны спачатку ў 500, затым у 1000, а потым у 2000 чалавек. Сакалоў (намеснік наркама УС БССР) на аператыўнай нарадзе так інструктаваў работнікаў НКУС: «Вы павінны раўняцца па стаханаўцах на вытворчасці і не толькі выконваць нормы па выкрыцці аднаго чалавека на суткі, але даваць больш, каб не дарма атрымліваць дзяржаўныя грошы». У Мінску нормы «выкрыцця» былі ад 1 да 3 арыштаваных у суткі, у Гомелі — ад 1 да 2.

«Я біў і ўжываў усякага роду здзекі: біў іх рукамі, садзіў на крэсла, затым даставаў з-пад іх крэсла, і яны падалі на падлогу, клаў іх на падлогу, згінаў удвая і ставіў зверху крэсла, сядаў на яго і сядзеў да таго часу, пакуль гэтыя асобы не пачыналі даваць паказанні; пляваў у твар і г.д. Праўда, частку арыштаваных — палову — я не біў, таму што яны значна лёгка пачыналі даваць паказанні і без гэтага», — пісаў у заяве з просьбай аб памілаванні ў лістападзе 1938 года арыштаваны следчы Быхоўскі.

У Гомелі для выкрыцця «контррэвалюцыянераў і шпіёнаў» у студзені ў сутарэннях НКУС былі абсталяваныя 3 камеры-«апарні». У вузкія памяшканні (два ложкі не змяшчаліся) камер-адзіночак са скошанай столлю (столі з аднаго боку былі 2 метры, з другога 1,5 метра), без вокнаў і вентыляцыі, з цэментнымі падлогамі заганялі да 20 і больш чалавек. Столькі, колькі маглі ўціснуць. Камеры абаграваліся печчу, якая знаходзілася за сцяной, у іх круглыя суткі гарэла святло. Людзей трымалі суткамі — яны стаялі да таго часу, пакуль не давалі прызнальных паказанняў. У прыбіральню выводзілі толькі па раскладзе.

Ад спёкі, смуроду людзі гублялі прытомнасць, у іх апухалі ногі, на целе з'яўляліся пухіры. Ля дзвярэй, дзе было больш паветра, ставілі камерных агентаў-крымінальнікаў, прысуджаных да расстрэлу, якія збівалі зняволеных. Тых, хто страціў прытомнасць, выцягвалі, адлівалі вадой са шланга і зноў запіхвалі ў камеру. Наяўнасць свядомасці канстатаваў лекар. Больш за 20 дзён «апарню» не вытрымліваў ніхто. Да асабліва непакорлівых ужывалі яшчэ адзін захад уздзеяння — «ледавік».

Арыштаванага адразу пасля «апарні» змяшчалі ў карцар у склепе з цэментавай падлогай, дзе ўзімку і ўлетку была нізкая тэмпература — каля +10С. У «апарні» пабывала 500–800 чалавек з агульнай масы разгледжаных спраў на 800–900 чалавек. «Ледавік» пасля «апарні» не вытрымаў ніхто.

У мінскай турме — «амерыканцы» — быў арганізаваны адмысловы рэжымны корпус, куды накіроўваліся ўжо асуджаныя на смерць, але якія, на думку следчых, не далі цалкам праўдзівых паказанняў. Асуджаныя дапытваліся зноў, але ўжо ў якасці сведак, да іх ужываліся асабліва жорсткія катаванні. Калі дапытаны даваў новыя «паказанні», становішча яго палягчалі, давалі цыгарэты, ежу. У «адмысловым корпусе» было пакінута 270 чалавек, толькі 88 з іх «далі паказанні» аж на 3489 грамадзян.

Людзі не вытрымлівалі катаванняў, гублялі розум або рабілі спробы самагубства. У пачатку 1938 года арыштаваны працаўнік «Водаканала» Асіповіч кінуўся ў турэмнай лазні ў кацёл з кіпнем.

Сяргей КАЙКО

# Прамаўчы — пападзеш у первачы

**Іх б'юць, а яны мацнеюць. Чаму цяпер футбалісты і хакеісты супольна не рэагуюць на гвалтоўныя дзеянні сілавікоў?**

Упазамінулы аўторак хакеіст Ілля Літвінаў вяртаўся з трэніроўкі разам з іншымі гульцамі маладзечанскага «Дынама». Быў цёплы жнівеньскі вечар, хлопцы прадчувалі чарговыя матчы Кубка Салея і стараліся не думаць пра палітыку. Але палітыка падумала пра іх сама. Ззаду раптам наляцелі татон-макуты ў чорным — з непрыхаванай сваёй ліцэнзіяй на крывавае беззаконне, выдадзенай ім роднай дзяржавай.

Большасці хакеістаў пашанцавала — далі па газах, разбегліся, уцяклі. Літвінаву пашчасціла менш. Яго «ўпакавалі». І павезлі туды, дзе шчыруюць руплівыя нашчадкі гестапа. Складана сказаць, што было б, калі б Ілля быў рабочым, студэнтам ці індывідуальным прадпрымальнікам. Магчыма, дагэтуль пакутаваў бы за кратамі — і час ад часу цешыў апрычнікаў гучным камланнем: «Люблю АМАП!» ды атрымліваў дручком за недастатковую выразнасць. Але ён хакеіст — тобок прадстаўнік супольнасці, ідэалагічна і фізічна блізкай да Лукашэнкі. Сістэма яго абараніла і ў хуткім часе ціхенька выцягнула з катавальні.

Адтуль Літвінаў выйшаў з незабыўнымі ўражаннямі і, як у «Брыльянтавай руцэ», са слядамі гвалту на твары. Білі зноў жа — акуратна, але моцна. Што выдатна відаць на фотаздымку, які нападаючы зрабіў ужо на волі.

Дзесьці ў тыя ж дні ў падобную гісторыю трапіў футбаліст Антон Сарока. Форвард барысаўскага БАТЭ і нацыянальная зборнай Беларусі. Дзе «прынялі» яго, дакладна не вядома. Кажуць, ва Уруччы, і таксама пасля трэніроўкі. Антона адвезлі ў Жодзіна — у мясцовы «лагер для інтэрнаваных». Ці білі, ніхто не ведае. Далі сем сутак арышту, але ўжо праз два дні выпусцілі. Сістэма і тут паклапацілася, зразумеўшы, што трымаць у засценках спартоўцаў ёсць «зашквар» нават па іх крывадушных паняццях.

Адзін з футбалістаў «Ліды» (прозвішча чамусьці не разгалошваецца) вечарам 12 жніўня выйшаў на шараговы шпацыр. І вельмі хутка пра тое пашкадаваў. На скрыжаванні вуліц ён патрапіў на вочы супрацоўнікам міліцыі, якія залезлі ў яго тэлефон і прыйшлі да высновы: «Гэта наш кліент». Для пачатку яго збілі — мабыць, для прафілактыкі, а затым кінулі ў вязніцу. Працягвалі корпацца ў гаджэце, знайшлі там спачуванні з нагоды смерці маці, «ветліва» ўдакладнілі інфармацыю: «Хто там у цябе здох?»

Якія планы мелі на хлопца так званыя ахоўнікі правапарадку, так і засталося невядомым. Ліда — горад невялікі, адзін з мясцовых сілавікоў пазнаў футбаліста, і неўзабаве яго вызвалілі. А каб занадта шмат ён пра сябе не думаў, на развітанне яму дзеля чагосьці намалявалі фарбай на спіне нумар 15, а на месцы, што ніжэй, вывелі крыж.



Ілля Літвінаў

**Калі нумар ужо быў амаль звярстаны, некаторыя футбалісты, нарэшце, падалі голас. Пратэсты падтрымалі гульцы БАТЭ Станіслаў Драгун і Ягор Філіпенка**

Футбаліст «СМІаўтатранс» з другой лігі Раман Дурко правёў у пастарунку трое сутак. Увогуле, яму далі іх 15, але ж спартовец... Калі разабраліся, давялося здаваць назад і ўключаць гуманізм.

«У такой сітуацыі ты адчуваеш сябе бяспраўнай істотай у клетцы...» — а гэта словы Сяргея Падалінскага. Былога гульца зборнай Беларусі па міні-футболе і трохразовага чэмпіёна краіны. Яго затрымалі вечарам у дзень выбараў каля мінскай гасцініцы «Юбілейная». Далей — паводле алгарытму: заламалі рукі, кінулі ў аўтазак, адвезлі на Акрэсціна. Тры гадзіны на каленях уздоўж плота, «выхаваўчыя» ўдары дручком, рэплікі накшталт: «Якія вам перамены? Наце вам перамен!» 38 чалавек у камеры, разлічанай на чатырох, двое сутак без ежы. Нейкім цудам (верагодна, паўплывала, што спартовец) Сяргей абышоўся штрафам. Нічога не зрабіў, нічога не парушыў — на выхадзе здзекі, і яшчэ застаўся вінны грошай улюбёнай дзяржаве. Відаць, за паслугі і цяжкую працу праваахоўнікаў.

Напэўна, у беларускім спорце ёсць і іншыя падобныя гісторыі. Калі грабуць і кідаюць у камеры ўсіх без разбору, трапіць пад раздачу лёгка. Нават калі ты апалітычны — і нават калі ты з той відавочнай меншасці, якая галасавала за Лукашэнку. Выйшаў не ў той час не ў тое месца, выпадкова далучыўся да натоўпу ў бел-чырвона-белым — усё, гамон! Выбачай, дружа, нічога асабістага — на табе па нырках і ў сківіцу. На берцах, як завяшчаў вялікі чалавекалюбца Мукавозчык. Потым адляжышся, а выбітыя зубы табе ўставіць дантыст. І барані Бог, калі ў тваім смартфоне будуць знойдзеныя фота з акцыяў пратэсту ці падпіска на тэлеграм-канал «Нехта». Тады за цябе возьмуцца з яшчэ большым імпэтам.

Усе згаданыя спартовыя кейсы аб'ядноўвае адна паганенькая акалічнасць — амаль ці абсалютная адсутнасць хоць якога бачнага варушэння з боку адміністрацыі і працадаўцаў.

Так, самі атлеты не маўчаць. Выказваюцца — нават звярнуліся з адкрытым лістом да ўладаў, у якім сфармулявалі папулярныя патрабаванні: правесці новыя выбары і спыніць затрыманні-катаванні. Ён надрукаваны на сайце «Прэсбола», але на момант напісання гэтага тэксту ў ім не было ніводнага футбольнага ці хакейнага прозвішча. У гэтай епархіі языкі збольшага засунутыя куды далей.

Так, вогненны ўчынак здзейсніў малады нападаючы ЦСКА Ілля Шкурын. Хлопцу ўсяго 21 год, а ён ужо фармулюе годную грамадзянскую пазіцыю. «Пра пападанне ў пашыраны спіс зборнай зноў даведваюся ў сацыяльных сетках. Таму і адказ свой пішу таксама тут. Прадстаўляць інтарэсы нацыянальнай каманды я адмаўляюся да той пары, пакуль ва ўладзе рэжым Лукашэнкі», — напісаў гулец у Instagram, дадаўшы красамоўнае «Жыве Беларусь!».

На пачатку падалося, што яго прыклад можа стаць трыгерам. Бо не цяжка сёння ўцяміць, што сапраўдны патрыятызм менавіта восць у гэтым — у такім дэмаршы, які слушна параўноўваць з забастоўкай рабочага класу. Заўзятары не пакрыўдзяцца — не да Лігі нацый ці Еўра ім цяпер, калі дзяржава канчаткова назвала сябе радзімай. Ці варта гуляць за радзіму, якая жульніцкі абнуляе рэальную волю народа і лупцуе сваіх грамадзян, не выбіраючы сродкаў?

Учынак Шкурына яшчэ можа зрабіцца трыгерам — не будзем бегчы наперадзе паравоза. Але пакуль — цішыня. Толькі тры валейбалісты ўзялі прыклад з маскоўскага армейца. Ды яго клубны трэнер — беларус Віктар Ганчарэнка — выступіў з асуджэннем агрэсіі і вынікаў выбараў. Большасць жа маўчыць — уключаючы тых жа Сароку і Літвінава, якія бачылі працэс «патрыятычнага выхавання» знутры.

Так, кулуарна профільныя інстанцыі робяць намаганні і вызваляюць сваіх з-за кратаў. Рэсурс ёсць — сувязі з сілавікамі прамыя, плюс на чале спартовага міністэрства ды федэрацый шмат людзей, якія яшчэ ўчора хадзілі з пагонамі. Але ж гэтая спрытнасць рук пад сталом падобная на вырашэнне пытанняў, так бы мовіць, «па блаце». Што рабіць тым, у каго блату няма? Толькі адно — абапірацца на салідарнасць навакольных.

Яе, салідарнасці, з боку цэнтральных спартовых інстытуцый практычна няма. Міністэрства спорту выціснула з сябе заяву, дзе асцярожна дэкларавала, «каб усе праблемы, нават самыя складаныя, вырашаліся мірным шляхам, без гвалту ў дачыненні тых, хто "за", і тых, хто "супраць"». Федэрацыя футбола падліла такой жа няўцямнай вады: «Выступаем супраць любой формы агрэсіі і дыскрымінацыі па палітычных і іншых матывах». Хакейная федэрацыя, здаецца, увогуле схавала галаву ў пясок.



Зрэшты, гэтаму якраз здзіўляцца не прыходзіцца. Дзяржаўныя структуры ў краіне падобныя адна на адну. Тое ж Міністэрства аховы здароўя стаіць на варце сістэмы, як тыя райкінскія гузікі, — «насмерць». Але медычная супольнасць выказвае супрацьлеглае стаўленне да сітуацыі, і бясконцыя акцыі пратэсту ды ланцугі салідарнасці ад цэлых працоўных калектываў — таму яскравае пацвярджэнне.

Футбольныя і хакейныя калектывы вядуць сябе інакш. Баязлівы, пакорлівы, маўклівы. БАТЭ ніяк не салідарызаваўся са сваім нападаючым Сарокай — нібыта той не ў астрог загрымеў, а паслізнуўся на бананавым лупінні. Ад маладзечанскага «Дынама» не чуваць публічных словаў падтрымкі Літвінаву — нібыта той не быў збіты на горкі яблык, а спатыкнуўся аб дзвярны парог. Усё тое ж самае: гучаць рэдкія галасы — як ад трэнераў Васіля Хамутоўскага, Віталя Жукоўскага, Аляксандра Сулімы і іншых. Ды яшчэ (і, дарэчы, вельмі годна) выступіў з асуджэннем цемрашальства судзейскі корпус. І ўсё.

Зразумела, што ўсё можна патлумачыць. Футбалістам і хакеістам няблага жывецца пры існуючым рэжыме. Пераважна на грошы існуючага рэжыму, якія дырэктыўна ўкідваюцца ў спорт. Зарплата ў дзве-тры тысячы долараў, фоткі з Мальдзіваў у Instagram, новенькі «мэрс» на паркоўцы ля «Гіпа»... Што яшчэ трэба, каб спакойна сустрэць старасць?

Відаць, трэба тое, што ёсць у іншых. Што прымушае не сядзець на прызбе, а выходзіць у ланцугі пратэсту і на забастоўкі медыкаў, рабочых, мастацтвазнаўцаў. Ці прымушае хаця б падаваць голас.

Асабліва выпуклы кантраст у Салігорску. Шахцёры ў шахце цяжкай працай здабываюць руду. Футбалісты «Шахцёра» з гэтай працы кормяцца, іх заробкі велізарныя — кажуць, ёсць і па дзесяць тысяч долараў. І футбалісты разам са сваім клубам маўчаць як рыба аб лёд, робячы выгляд, што матчы еўракубкаў займаюць усе іх думкі. Картка ў банкамат добра заходзіць — якія тут грамадзянскія пачуцці...

Медыкі да банкаматаў ходзяць радзей. Дзяржава выдаткоўвае на іх драбкі на фоне даходаў футбалістаў. І гэта не перашкаджае ім бачыць далей за ўласны нос. Яны змагаліся ўвесну з каронавіруснай навалаччу — і былі героямі. Яны рызыкуюць цяпер — калі дэманструюць зацятую нязгоднасць з чарговымі ярмошынскімі лічбамі, а затым бяруцца лекаваць дэманстрантаў, збітых на горкі яблык на вуліцах і ў камерах. Яны зноў героі, што б там ні думаў на гэты конт іх міністр Каранік.

Калі аднойчы дабро пераможа, выбаркам навучыцца добра лічыць галасы, а з бальнічнага ложку падымецца апошні катаваны пацыент, у новай Беларусі абавязкова перагледзяць прыярытэты. І зробяць правільныя высновы датычна таго, хто на што годны і карысны для грамадства. І накіруюць дзяржпадтрымку, хутчэй, дзейным медыкам, чым бяздзейным футбалістам-хакеістам. Для выхаду Беларусі з цемры медыкі робяць непараўнальна больш. Як і многія іншыя.

Зрэшты, нікому яшчэ не позна далучыцца.

*P.S.: Калі нумар ужо быў амаль звярстаны, некаторыя футбалісты, нарэшце, падалі голас. Пратэсты падтрымалі гульцы БАТЭ Станіслаў Драгун і Ягор Філіпенка.*

# БагатаДата

**У гэтыя дні нарадзіліся Аляксандр Грын і Гіём Апалінэр. Здавалася б, пры чым тут Беларусь?**

## 22 жніўня

**1940.** Прэса паведаміла пра хуткі запуск Мінскага радыёзавода. Пры канцы года тут пачалі выробляць прымачы «КІМ», «Піянер» ды «Маршал». Знешні іх выгляд нагадваў польскія радыёпрымачы «Komandor» ды «Herold». З 1972 года называецца «Гарызонт» .

## 23 жніўня

**Дзень работнікаў дзяржстатыстыкі. Еўрапейскі дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму.**

**1880.** У Вяцкай губерні Расіі нарадзіўся пісьменнік Аляксандр Грын (Грынеўскі). Яго бацька паходзіў са шляхты Віцебшчыны, быў удзельнікам паўстання 1863–1864-га. Пасля высылкі пасяліўся ў Вяцкай губерні, дзе ўзяў шлюб.

**1955.** У вёсцы Здудзічы Светлагорскага раёна нарадзіўся журналіст Рыгор Кісель. Кіраваў БТ і АНТ. Працаваў паслом у Румыніі.

## 24 жніўня

**Дзень незалежнасці Украіны.**

## 25 жніўня

**1910.** У горадзе Барань Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся літаратар-байкапісец Уладзімір Корбан. Кар'ера — ад дырэктара цвіковага завода ў Лідзе да пасады галоўнага рэдактара гумарыстычнага часопіса «Вожык».

## 26 жніўня

**1880.** У Рыме нарадзіўся Гіём Апалінэр. Сапраўднае імя — Гіём-Вільгельм-Альберт-Уладзімір-Аляксандр-Апалінарый Кастравіцкі. Радавы маёнтак Кастравіцкіх Дарожкавічы пад Навагрудкам быў канфіскаваны за ўдзел гаспадароў у паўстаўнні 1863–1864 гадоў. Дзед паэта эміграваў у Італію. Большасць твораў Апалінэра апублікавана пасмяротна.

## 27 жніўня

1610. Уладзіслаў Ваза, сын караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы, на тры гады стаў рускім царом пры Сямібаяршчыне.

## 28 жніўня

1925. У расійскім Іванаве нарадзіўся артыст балету Георгій Мартынаў. Быў салістам Тэатра оперы і балета ў Мінску, а таксама Белдзяржфілармоніі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1388

Падпісана да друку 20.08.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.